● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

13 жніўня 1996 г. аўторак, № 201 (23004)





# ЗВЯЗДА

## УРАДЖАЙ-96

### Дзяржаве здадзена 616 тысяч тон збожжа

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве хлебапрадуктаў, у дзяржаўныя засекі паступіла 616 тысяч тон збожжа, што складае 32 працэнты ад планавага паказчыка. Сярод абласцей гэтыя лічбы выглядаюць наступным чынам: Гомельская — 108 тысяч тон, Магілёўская — 136, Мінская — 128, Брэсцкая — 99, Гродзенская — 94 і Віцебская — 50 тысяч тон.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### Трохвугольнік «Мінск–Санкт-Пецярбург–Масква» будзе дзейнічаць

**Сустрэча Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з мэрамі Масквы і Санкт-Пецярбурга Лужковым і Якаўлевым, якая павінна была адбыцца 10 жніўня ў Брэсце, перанесена на канец бягучага месяца.**

Падставай для гэтага стала надзвычай напружаная грамадска-палітычная сітуацыя ў Расіі, выкліканая актывізацыяй баявых дзеянняў у Чачні. Падчас сустрэчы планавалася абмеркаванне пытанняў, звязаных з гандлем паміж нашай краінай і дзвюма сталіцамі суседняй дзяржавы, магчымасці пастаўкі ў Расію сельскагаспадарчай прадукцыі. Як вядома, падобныя сустрэчы былі і ў мінулым годзе, але нягледзячы на дэклараваныя дамоўленасці канкрэтныя вынікі былі нязначнымі. Таму на гэты раз у Брэсце планавалася высветліць прычыны такога становішча і пазбегнуць іх у далейшым супрацоўніцтве.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### Гомельшчыну ў каторы раз напаткала бяда. На гэты раз – з нябёсаў

**Нібыта нейкі праклён вісіць сёлета над Гомельскай вобласцю: у канцы мая—пачатку чэрвеня яе напаткала засуха, у канцы чэрвеня сельскагаспадарчым угоддзям шмат шкоды нанеслі замаразкі і вось — новая навала. У выніку моцнага ліўневага дажджу, які прайшоў на мінулым тыдні ў Лельчыцкім раёне, пад вадой апынуліся значныя плошчы ўгоддзяў, былі падтоплены дамы.**

Як паведамілі «Звяздзе» ў абласным штабе грамадзянскай абароны, на шчасце абышлося без ахвяр. Праўда, выпаўшыя ападкі (прыкладна 70—75 мм за 6 гадзін дажджу, што складае практычна месячную норму) падтапілі 66 населеных пунктаў. У прыватнасці, толькі ў Лельчыцах ад вады пацярпелі 85 дамоў. Дзякуючы намаганням адпаведных службаў сітуацыя нармалізавалася ўжо да канца мінулага тыдня: на ліквідацыі наступстваў ліўневага дажджу працавалі меліяратары, пажарныя часці. Сума ўрону яшчэ не падлічана, але, трэба меркаваць, яна будзе немалой. На сённяшні ж дзень, як паведамілі ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС, жыццё ў Лельчыцкім раёне практычна ўвайшло ў звычайную каляіну.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ **Сярэднерэспубліканскі намалот** збожжа на сёння складае **24,5 цэнтнера з гектара**, як, дарэчы, і летась.

❑ Начальнік Галоўнага штаба Узброеных Сіл Беларусі генерал-лейтэнант Аляксандр Чумакоў адбыў на амерыканскую ваенную базу «Кэмп Лежэн», дзе ў якасці назіральніка **будзе прысутнічаць на вучэннях «Кааператыў Острэй-96»** па адпрацоўцы пытанняў узаемадзеяння ўзброеных сіл НАТО і краін — удзельніц праграмы «Партнёрства дзеля міру».

❑ Паводле афіцыйных звестак, па стану на 1 жніўня **колькасць беспрацоўных у рэспубліцы склала 180 тысяч 391 чалавек** — узровень беспрацоўя ў адносінах да колькасці працаздольнага насельніцтва складае 3,24 працэнта.

❑ Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, нягледзячы на тое, што па каштоўнасці свайго фонду ўваходзіць у першую тройку музеяў былога СССР, **мае магчымасць сёння дэманстраваць** толькі 6 працэнтаў сваёй калекцыі.

❑ За дзесяць гадоў — з 1986 па 1995 — **колькасць пажараў** у рэспубліцы **вырасла амаль на 55 працэнтаў**. Толькі сёлета пажарнымі службамі выратавана матэрыяльных каштоўнасцей на суму больш як 4 трыльёны рублёў.

❑ Школьнікі некаторых раёнаў Крыма **пачалі чарговы навучальны год на тры тыдні раней, чым звычайна** — гэта выклікана тым, што ім трэба «нагнаць» праграму мінулага вучэбнага года, якая не была выканана ў сувязі з прастоямі школы з-за адсутнасці ацяплення і электрычнасці гэтай зімой.

❑ **Амерыканскія вучоныя**, якія даследуюць прычыны выбуху 17 ліпеня самалёта «Боінг», у час якога загінула 230 пасажыраў і членаў экіпажа, вымушаны былі прызнаць, што «выціснулі ўсю магчымую інфармацыю з «чорнай скрынкі», але **не атрымалі дакладнага адказу** на пытанні, якія маглі б праліць святло на прычыны катастрофы.

## У РАСІІ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ РАЗУМЕЮЦЬ ЛЕПШ, ЧЫМ НА РАДЗІМЕ

**У мінулую суботу закончыўся трохдзённы візіт у Маскву беларускай дэлегацыі на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Як вядома, паездка была прымеркавана да ўрачыстага ўступлення на пасаду Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына. Але для Аляксандра Лукашэнкі мэта яе заключалася не толькі ў прысутнасці на інаўгурацыі свайго калегі. Кіраўнік Беларусі скарыстаў зручны момант і правёў некалькі сустрэч з вядомымі палітыкамі і дзяржаўнымі дзеячамі як з Расіі, так і з іншых краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Вынікі іх ён паведаміў журналістам яшчэ перад адлётам з Масквы. Сярод прадстаўнікоў прэсы быў і наш спецыяльны карэспандэнт.**

Ужо адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў у Расіі ў вышэйшых эшалонах улады адбыліся кардынальныя змены. У акружэнне Б. Ельцына не без яго дапамогі прыйшлі новыя людзі, тыя палітыкі, якія раней ігралі другарадныя ролі. Зараз жа менавіта яны вызначаюць пагоду ў Крамлі. Таму не дзіўна, што Аляксандр Лукашэнка імкнуўся сустрэцца ў першую чаргу з імі. Ён сам падкрэсліў гэта падчас гутаркі з журналістамі. «Трэба было пазнаёміцца з людзьмі, якіх я раней не ведаў, і дамовіцца, як працаваць далей, зверыць курсы нашых дзяржаў, паколькі мы дзейнічаем у межах адзінай эканамічнай прасторы, мы — члены аднаго супольніцтва. Прамежак часу з моманту заключэння дамовы і да сённяшняга дня — гэта прамежак перадвыбарны, таму спад у толькі што створаным супольніцтве, вядома, быў. Такім чынам, зараз трэба было прыдаць дынамізм супольніцтву. Вось пад гэтым флагам і адбываліся мае сустрэчы», — сказаў А. Лукашэнка.

Новымі людзьмі для яго, безумоўна, сталі старшыня Савета бяспекі Расіі Аляксандр Лебедзь і нядаўна прызначаны кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Расіі Анатоль Чубайс. З першым лідэр Беларусі меў кароткую размову падчас урачыстага прыёму ў Крамлі пасля цырымоніі ўступлення на пасаду Прэзідэнта Барыса Ельцына. Паводле слоў сп. Лукашэнкі, тэма іх гутаркі ў асноўным датычылася ваеннага і ваенна-прамысловага супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў. А вось з Анатолем Чубайсам адбылася асобная сустрэча ў асабняку на Вараб'ёвых гарах. Дамоўленасць адносна яе была дасягнута пасля перамоў сп. Мяснікові́ча, які напярэдадні знаходзіўся ў Маскве.

(Заканчэнне на 2-й стар.)



У час паездкі ў Маскву Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з Віктарам Чарнамырдзіным. Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.

### ВІНШАВАЛЬНАЯ ТЭЛЕГРАМА В. С. ЧАРНАМЫРДЗІНУ

*г. Масква, Дом Урада Расійскай Федэрацыі.*
*Старшыні выканаўчага камітэта Супольніцтва Беларусі і Расіі,*
*Старшыні Урада Расійскай Федэрацыі В. С. Чарнамырдзіну*

*Паважаны Віктар Сцяпанавіч!*

*Прыміце шчырыя і сардэчныя віншаванні ў сувязі з зацвярджэннем Вас Старшынёй Урада Расійскай Федэрацыі. Аднадумнасць, з якой Дзяржаўная Дума прыняла рашэнне адносна Кіраўніка Урада Расіі, зноў пацвярджае Ваш безумоўны аўтарытэт і рэпутацыю буйнога палітыка, эканаміста і кіраўніка міжнароднага маштабу. З зацвярджэннем Вас на гэтай высокай дзяржаўнай пасадзе ў складаны і пераломны перыяд глыбокіх рэформаў і пераўтварэнняў, не толькі расійскі, але і беларускі народы звязваюць развіццё далейшага працэсу яднання дзвюх брацкіх краін Расіі і Беларусі, ля вытокаў якога, акрамя двух прэзідэнтаў, стаялі і Вы, праявіўшы палітычную волю і дальнабачнасць.*

*Ваш вопыт, рэалістычныя падыходы да праблем дзяржаўнага будаўніцтва і правядзення сацыяльна арыентаваных рэформаў, даюць магчымасць спадзявацца, што выбраны шлях інтэграцыі і ўмацавання Супольніцтва Беларусі і Расіі зваротнага шляху не мае, паколькі ён прадвызначаны блізкасцю гістарычнага і духоўнага лёсу расійскага і беларускага народаў.*

*Жадаю Вам, паважаны Віктар Сцяпанавіч, поспехаў, здароўя і шчасця ў цяжкай дзейнасці ў імя працвітання расійскай дзяржавы, на карысць выканання тых надзей і спадзяванняў, з якімі звязваюць сваю будучыню нашы краіны і нашы народы.*

***Са шчырай павагай і добрымі пачуццямі***

**Старшыня Вышэйшага Савета Супольніцтва Беларусі і Расіі, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

## РЭФЕРЭНДУМ ВЫРАШЫЦЬ КАНСТЫТУЦЫЙНЫ КРЫЗІС

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўнёс на разгляд Вярхоўнага Савета пакет дакументаў, у якіх кіраўнік дзяржавы ініцыіраваў правядзенне 7 лістапада 1996 года рэферэндуму па ўсенароднаму прыняццю Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са зменамі і дапаўненнямі.**

Тэкст новай рэдакцыі Канстытуцыі, у распрацоўцы якога прымалі ўдзел вядомыя вучоныя Беларусі, будзе апублікаваны ў друку і перададзены ў Вярхоўны Савет у пачатку верасня бягучага года.

**У СУВЯЗІ З ГЭТЫМ ГАЛОЎНАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЙ ІНФАРМАЦЫІ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА ЗРАБІЛА НАСТУПНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ.**

«Складаныя эканамічныя, палітычныя і сацыяльныя задачы пераходнага перыяду, якія вырашае беларускае грамадства, патрабуюць зладжанай работы і цеснага ўзаемадзеяння ўсіх галін улады, усіх звёнаў дзяржаўнага кіравання.

Прававой базай такога ўзаемадзеяння з'яўляецца Асноўны закон — Канстытуцыя дзяржавы. Два гады, якія мінулі пасля прыняцця цяперашняй беларускай Канстытуцыі, паказалі, што тая спешка і кялейнасць, з якімі быў прыняты Асноўны закон краіны, у многім вызначылі яе значныя заганы і супярэчнасці.

Дэкларуючы, што Прэзідэнт Рэспублікі з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, кіраўніком выканаўчай улады, Вярхоўным Галоўнакамандуючым і нясе ўсю паўнату адказнасці за выкананне дзяржаўных абавязкаў, Канстытуцыя па сутнасці пазбаўляе Прэзідэнта ўсіх рычагоў кіравання, адначасова надзяляючы неабмежаванымі паўнамоцтвамі Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд. У выніку гэтага любы ўказ або распараджэнне Прэзідэнта могуць быць адменены або прызнаны як не падлягаючыя выкананню, па рашэнню Вярхоўнага Савета або Канстытуцыйнага суда. Больш таго, Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд могуць самастойна, не раячыся з народам, адхіліць усенародна выбіраемага Прэзідэнта ад улады.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

### Выбары дэпутатаў назначаны на 24 лістапада

**Дадатковыя паўторныя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання і мясцовых прадстаўнічых органаў улады павінны адбыцца 24 лістапада, у апошнюю нядзелю месяца.**

Такое рашэнне прынята 12 жніўня на пасяджэнні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

— Дата выбараў назначана ў поўнай адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета краіны аб іх правядзенні, — гаворыць выконваючы абавязкі старшыні Цэнтрвыбаркома Аляксандр Жук. — Галасаванне павінна прайсці ў 61 акрузе рэспублікі, дзе пры правядзенні папярэдніх выбараў не былі выбраны дэпутаты парламента.

На пасяджэнні быў таксама зацверджаны каляндарны план асноўных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенню дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета, разгледжаны пытанні фінансавання арганізацыі гэтага мерапрыемства.

У рабоце Цэнтрвыбаркома прыняў удзел першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Васіль Новікаў.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

### СПІКЕРА ЦІКАВІЦЬ ХОД ЖНІВА І ПЕРАДАВЫ АГРАРНЫ ВОПЫТ

**Знаёмства са станам спраў у сельскай гаспадарцы Брэстчыны Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Сямён Шарэцкі пачаў 9 жніўня з наведвання саўгаса «Заказельскі» Драгічынскага раёна.**

Пры ўсіх цяперашніх цяжкасцях у гэтай гаспадарцы, якую ўзначальвае дэпутат Вярхоўнага Савета Мікалай Якаўчык, штогод назіраецца значны рост вытворчасці, вядзецца вялікае будаўніцтва ў сацыяльнай сферы, праяўляецца немалы клопат аб жыцці і быце сялян. Таму і спікера парламента цікавіла ў першую чаргу, як удаецца саўгасу зарабляць грошы на такія шырокія праграмы і што прапануюць аграрыі-практыкі для вырашэння праблемы вываду вёскі з крызісу. Як адзначыў С.Шарэцкі, гэта тым больш важна сёння, калі завяршаецца распрацоўка ўрадавай праграмы далейшага развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі. На думку спікера, для агульнага паляпшэння спраў у эканоміцы цяпер мала асобных «уколаў» або фрагментарных фінансавых уліванняў, а патрэбны канкрэтныя, прадуманыя і кардынальныя меры.

У саўгасе «Заказельскі» спікер парламента пазнаёміўся з ходам жніва і нарыхтоўкі кармоў, пабываў на ферме, дзе цяпер штодня атрымліваюць ад каровы па пуду малака, наведаў абноўленую мясцовую школу, якая адзначыла нядаўна свае 130-годдзе, і дзіцячы садок, жыллёвыя новабудоўлі. У далейшай праграме паездкі Сямёна Шарэцкага па Брэсцкай вобласці — наведванне шэрага аграрных аб'ектаў у Драгічынскім раёне, сустрэча з кіраўніцтвам і дырэктарамі прадпрыемстваў Іванаўскага раёна для абмеркавання праблемы малых гарадоў, працяг знаёмства з ходам уборачных работ у рэгіёне.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

### Прэм'ер-міністр Беларусі Чыгір трапіў у аўтакатастрофу

**Інфармаваная крыніца ў Кабінеце Міністраў рэспублікі паведаміла «Інтэрфаксу», што на 28-м кіламетры Мінскай кальцавой дарогі службовы аўтамабіль прэм'ер-міністра «Мерседэс»-560 сутыкнуўся з аўтамабілем «Шкода- фаварыт», які рухаўся насустрач і якім кіравала дырэктар камерцыйнага прадпрыемства «Рэкс'ю».**

Аўтамабіль М. Чыгіра ў выніку аварыі атрымаў значныя пашкоджанні і з'ехаў у кювет. Сам прэм'ер, як запэўніла крыніца, не пацярпеў, як не атрымалі значных пашкоджанняў і іншыя ўдзельнікі аварыі.

Па словах крыніцы, у 19.35 у нядзелю М. Чыгір вяртаўся з працы ва ўрадавую рэзідэнцыю «Дразды», дзе жыве з сям'ёй. У машыне, акрамя прэм'ер-міністра, знаходзіліся таксама яго вадзіцель і супрацоўнік службы бяспекі.

Аўтамашынай, якая рухалася насустрач, кіравала жанчына, якая не справілася з кіраваннем і выехала на сустрэчную паласу руху. У аўтамашыне «Шкода», акрамя дырэктара камерцыйнай фірмы, знаходзіліся яе муж і 8-гадовы сын.

Крыніца выказала шкадаванне, што прэм'ер-міністру ў апошні час не шанцуе з транспартам. Паўтара года таму злачынцы ўкралі службовы аўтамабіль М. Чыгіра «Мерседэс»-320. У сярэдзіне ліпеня бягучага года ён быў знойдзены супрацоўнікамі крымінальнай міліцыі «ў адной з рэспублік блізкага замежжа з перабітымі нумарамі на рухавіку і кузаве». Украдзены аўтамабіль у канцы ліпеня вярнулі яго ўладальніку.

**«Інтэрфакс-Захад».**

### ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР АДБЫЎ У ВОДПУСК

12 жніўня прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір адбыў у водпуск.

**БЕЛТА.**

## ВІЗІТ У САВЕТ БЯСПЕКІ РАСІІ

**Як паведаміла служба інфармацыі Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, 6 — 8 жніўня адбыўся візіт дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі В.Шэймана ў Савет бяспекі Расійскай Федэрацыі.**

У ходзе візіту прайшлі сустрэчы і перамовы В.Шэймана з сакратаром Савета бяспекі Расіі, памочнікам Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі па нацыянальнай бяспецы А.Лебедзем, на якіх быў абмеркаваны шэраг актуальных праблем забеспячэння бяспекі Беларусі і Расіі, умацавання ўзаемадзеяння ў гэтай галіне ў рамках Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі. Па выніках візіту падпісаны Пратакол аб супрацоўніцтве паміж Саветам бяспекі Рэспублікі Беларусь і Саветам бяспекі Расійскай Федэрацыі. Для забеспячэння практычнай работы па рэалізацыі палажэнняў Пратакола створана сумесная каардынацыйная група.

7 і 8 жніўня В.Шэйман сустрэўся таксама з міністрам абароны Расійскай Федэрацыі І.Радзівонавым, дырэктарам Федэральнай службы бяспекі Расіі М.Кавалёвым і генеральным дырэктарам Федэральнага агенцтва ўрадавай сувязі і інфармацыі А.Старавойтавым.

**БЕЛТА.**

## ГАНДЛЯВАЛІ СМЕРЦЮ

**У нядзелю ў Мінску а палове пятай вечара на вуліцы Прытыцкага супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю затрымалі трох незвычайных гандляроў.**

Трое непрацуючых мінчан сярод белага дня намагаліся прадаць 1,6 кілаграма толу і 6 электрадэтанатараў. Гэта першая за апошні час спроба такога нахабнага гандлю зброяй. Дзе ўдалося гора-гандлярам здабыць такую колькасць выбуховага рэчыва, выявіць следства.

**Пётр РАБКАВЕЦ, прэс-цэнтр МУС.**

## Унутраныя рэзервы ў сферы аховы здароўя пакуль ёсць, але ўсё роўна цяжкасцей пазбегнуць наўрад ці ўдасца

**Адзіны шлях да зняцця вострых праблем у пошуку ўнутраных рэзерваў. Так лічаць у галоўным упраўленні планавання і эканомікі Міністэрства аховы здароўя.**

Уявіце сабе, рэзервы яшчэ засталіся. Да 15 жніўня Міністэрству аховы здароўя неабходна ўнесці прапановы па скарачэнню сеткі ўстаноў галіны і па пераводу некаторых відаў медыцынскіх паслуг на платную аснову. Да гэтага часу толькі невялікая частка паслуг аплачвалася насельніцтвам (напрыклад, зубапратэзаванне, масаж і г. д.). Цяпер пералік платных паслуг пашырыцца.

Але платныя медыцынскія паслугі — з'ява для людзей ужо звычайная, хаця і не вельмі радасная, улічвае адсутнасць масавага медыцынскага страхавання ў краіне.

Скарачэнне сеткі ўстаноў будзе адбывацца там, дзе ў наяўнасці неэфектыўнае яе выкарыстанне. Сказанае датычыцца да выкарыстання ложкавай сеткі ўчастковых бальніц. Жабрацкія пенсіі і дапамогі вымушаюць многіх шукаць прытулак у стацыянары, дзе можна атрымаць бясплатнае харчаванне, ды і догляд, лячэнне — таксама.

Скарачэнне медыцынскага персаналу не прадугледжваецца, тым больш, што пад разгорнутую сетку ўстаноў у Беларусі існуе патрэбнасць у спецыялістах, сярэдні каэфіцыент сумяшчальніцтва ў галіне — 1,34. Такім чынам, у першую чаргу будуць скарачацца вакантныя пасады.

Акрамя таго, нас з вамі чакае больш строгі падыход да выкарыстання стацыянарнага лячэння: больш жорсткі рэжым шпіталізацыі, правядзенне неабходнага абследавання перад накіраваннем чалавека ў бальніцу, скарачэнне тэрмінаў шпіталізацыі. Замена, дзе гэта магчыма, кругласутачных стацыянараў на дзённыя дае істотны эканамічны эфект — адпадае неабходнасць у забеспячэнні хворых снеданнямі і вячэрамі.

Нарэшце, аб недасканаласці сістэмы аплаты працы. Відавочна, памер стаўкі першага разраду заніжаны (110.000 рублёў), і, як вынік, застаецца нізкай зарплата работнікаў аховы здароўя. Для параўнання: сярэднегадзінная заработная плата ў прамысловасці — 9627 рублёў, у адукацыі — 6549, у ахове здароўя — 6295.

Акрамя таго, пакуль няма істотнага стымулу ў медыкаў да атрымання больш высокай катэгорыі, таму што гэта дае нязначнае павелічэнне заработнай платы. А атрымаць новую катэгорыю надзвычай цяжка.

Да 1 кастрычніка Міністэрства аховы здароўя павінна ўнесці прапановы аб змяненні сістэмы аплаты працы работнікаў галіны. Падобныя прапановы гучалі ўжо неаднаразова, таму застаецца спадзявацца, што на гэты раз яны прывядуць да прыняцця рашэнняў, тым больш, што ініцыятыва зыходзіць «зверху».

**Вольга СТАЎРОЎСКАЯ.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Мінску, Магілёве, Віцебску — 24—26, Гродне, Брэсце, Гомелі — 25—27 градусаў.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, 14-га — у заходніх, 15-га — і ў цэнтральных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ўначы — 9—14, удзень — 22—27 градусаў цяпла.

# У РАСІІ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ РАЗУМЕЮЦЬ ЛЕПШ, ЧЫМ НА РАДЗІМЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Прэзідэнт Беларусі сустрэўся і са «старымі знаёмымі»: Ягорам Строевым, Віктарам Чарнамырдзіным, Яўгенам Прымаковым і Леанідам Кучмам. Як сказаў сп. Лукашэнка, гутарка са Старшынёй Савета Федэрацыі Расіі датычылася грамадска-палітычнай сітуацыі ў дзвюх краінах. Акрамя таго, Ягор Строеў праінфармаваў Прэзідэнта аб апошнім візіце спікера Шарэцкага ў Арлоўскую вобласць. Але вось пра пытанні, якія тады абмяркоўваліся, сп. Лукашэнка сказаць не захацеў, заўважыўшы пры гэтым толькі тое, што для яго гэтая інфармацыя была вельмі непрыемнай. «Гэта было ў русле ўсё адной і той жа палітыкі, якая праводзіцца зараз і ў Беларусі. Але вельмі непрыгожа рабіць такое за спінай», — дадаў ён.

З Віктарам Чарнамырдзіным гутарка вялася пераважна па эканамічных пытаннях. У прыватнасці, А. Лукашэнка паведаміў новую інфармацыю адносна так званага «нулявога варыянта». Як вядома, дамоўленасць аб пагашэнні беларускай запазычанасці за расійскі газ у памеры 1 300 млн. долараў доўгі час заставалася на паперы. Практычных жа крокаў у гэтым накірунку так і не было зроблена. Зараз, паводле слоў Прэзідэнта, дамоўленасць рэалізавана не толькі на міждзяржаўным узроўні, але і на ўзроўні канкрэтных прадпрыемстваў. «Гэта значыць, што грошы, якія былі спісаны Расіяй, ужо зняты з нашых прадпрыемстваў. А тая запазычанасць Знешэканомбанка былога СССР, якая мелася перад Беларуссю, таксама пагашана. Гэтая сума (каля 300 млн. долараў) таксама ўлічана ў «нулявым варыянце». Дамоўленасць рэалізавана поўнасцю. Праўда, ёсць тэхнічны бок: перадача расійскім бокам Беларусі адпаведнага вэксаля. Але гэта будзе вырашана ў бліжэйшы час. Да таго ж гэта ўжо не мае ніякіх адносінаў да нашых канкрэтных суб'ектаў гаспадарання», — падкрэсліў А. Лукашэнка. Акрамя таго, са Старшынёй урада Расійскай Федэрацыі абмяркоўваліся праблемы функцыянавання Супольніцтва Беларусі і Расіі. Асаблівая ўвага была накіравана на падрыхтоўку Палажэння аб мытным саюзе. Узаемапаразуменне дасягнута і адносна эканамічнага супрацоўніцтва і гандлю паміж дзвюма дзяржавамі.

А вось 222 млн. долараў ужо завінавацілася Беларусі Украіна. Таму праблема пагашэння гэтага доўгу была дамінуючай на перамовах Аляксандра Лукашэнкі з Леанідам Кучмам. Нацыянальны банк Украіны пагадзіўся з прэтэнзіямі Беларусі, таму прэзідэнты ўмовіліся, што ў хуткім часе падпішуць дамоўленасць аб рэструктурызацыі запазычанасці і прызнанні яе на дзяржаўным узроўні. Другім канкрэтным вынікам сустрэчы стала абяцанне Леаніда Кучмы, што Беларусь атрымае ў сваё карыстанне 26 аб'ектаў, якія належаць нашай дзяржаве, але знаходзяцца на тэрыторыі Украіны. Па просьбе ўкраінскага боку таксама была абмеркавана магчымасць дэлімітацыі дзяржаўнай мяжы паміж Беларуссю і Украінай.

З міністрам замежных спраў Расіі сп. Прымаковым гутарка ішла адразу па некалькіх праблемах. Па-першае, ужо другі раз абмяркоўвалася ініцыятыва стварэння ва Усходняй Еўропе бяз'ядзернай зоны. Па-другое, А. Лукашэнка атрымаў ад расійскага дыпламата водгук адносна ініцыятывы рэферэндуму і праекта новай Канстытуцыі Беларусі, які Прэзідэнт мяркуе вынесці на рэферэндум. «Ніводнай прэтэнзіі ў Прымакова не знайшлося. Мы абмяркоўвалі з ім мае прапановы па рэферэндуму і Канстытуцыі, і ён мяне поўнасцю падтрымаў. Сказаў, што гэта лепшае, што ён у апошні час бачыў. Таму мне было вельмі прыемна атрымаць пакуль вуснае заключэнне па праекту Канстытуцыі. Вядома, падтрымка такога дыпламата для мяне вельмі важная», — заўважыў кіраўнік выканаўчай улады Беларусі.

Акрамя таго, Аляксандр Лукашэнка меў неафіцыйныя сустрэчы з Барысам Ельцыным, з мэрам Масквы сп. Лужковым. Падводзячы вынікі, Прэзідэнт заўважыў, што палітыкі за межамі нашай дзяржавы, асабліва ў Расіі, успрымаюць, прымаюць і падтрымліваюць яго лепш, чым беларускія. «І гэта галоўнае, што я вынес з гэтых сустрэч. Я як Старшыня Вышэйшага Савета Супольніцтва атрымаў падтрымку літаральна ўсіх палітыкаў Расіі. Нават учора кароткачасовая сустрэча з дэпутатамі Дзярждумы, прадстаўнікамі ўсіх фракцый аказалася вельмі цёплай», — сказаў Прэзідэнт.

Вядома, беларускіх журналістаў у сваю чаргу найперш цікавілі тэмы больш актуальныя для нашай краіны. Сярод іх асаблівае месца займае ініцыятыва Аляксандра Лукашэнкі адносна рэферэндуму. Паводле яго слоў, пытанні, якія будуць вынесены на рэферэндум, канчаткова будуць зацверджаны на бягучым тыдні, перад паездкай Прэзідэнта ў Гродзенскую вобласць. Галоўнае, дзеля чаго і задумваецца рэферэндум, — праект новай рэдакцыі Канстытуцыі. «Уся сутнасць канстытуцыйных змен заключаецца ў тым, што яны патрэбны пад новую праграму развіцця нашай дзяржавы, пад новы курс. Менавіта пагэтаму сёння з'явілася ініцыятыва рэферэндуму па Канстытуцыі. Частку пытанняў я ўжо накіраваў у Вярхоўны Савет», — сказаў А. Лукашэнка. Акрамя таго, хутчэй за ўсё будзе вынесена на ўсенароднае абмеркаванне праблема куплі-продажу сельскагаспадарчай зямлі. Прэзідэнту прапануюць высветліць адносіны людзей да прыватызацыі, але ён лічыць, што рабіць гэта няма сэнсу, паколькі прыватызацыя ўжо ідзе і галоўнае, як яна павінна ісці. А гэта будзе адлюстравана ў праграме развіцця дзяржавы, якую прапануе Прэзідэнт. Прапаноўвалася ўнесці і пытанне адносна пашырэння НАТО на Усход. «Я таксама не схільны ўносіць гэтае пытанне, паколькі і так вядомы адносіны нашага народа да гэтай праблемы», — заўважыў А. Лукашэнка. Ёсць прапанова паставіць пытанне аб адносінах да смяротнага пакарання, аб пераносе даты святкавання Дня незалежнасці з 27 на 3 ліпеня.

Адначасова Аляксандр Лукашэнка спыніўся на некаторых адрозненнях праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі ад дзеючай зараз. У прыватнасці, яны датычацца пэўных змен дзяржаўнай пабудовы нашай краіны. Прэзідэнт павінен у структуры дзяржаўнай улады займаць асаблівае месца і быць кіраўніком дзяржавы. «Павінен быць чалавек і інстытут, які б каардынаваў адносіны ўладаў. Мы тут зрабілі раней вялікую памылку.» Выканаўчая ўлада, адлюстраваная ў асобе ўрада, павінна быць пры кіраўніку дзяржавы. Прапаноўваецца і новая схема фарміравання саставу Канстытуцыйнага суда і Цэнтрвыбаркома. Паводле слоў Прэзідэнта, яны павінны фарміравацца напалову Сенатам (прапаноўваецца, дарэчы, двухпалатны парламент), а напалову — Прэзідэнтам. З мэтай шырокага абмеркавання праекта новай Канстытуцыі плануецца аддрукаваць яго, распаўсюдзіць праз сродкі масавай інфармацыі. Аляксандр Лукашэнка нават выказаў сваю згоду на сустрэчу з кіраўнікамі палітычных партый і аб'яднанняў, а таксама прапанову аб правядзенні форуму народа Беларусі. Што датычыцца фінансавання рэферэндуму ва ўмовах хранічнай няхваткі бюджэтых сродкаў, то Прэзідэнт сказаў літаральна наступнае: «Грошай з бюджэту мы не возьмем ні капейкі. Рэферэндум абыдзецца ў вельмі малую суму. Я буду прасіць людзей на месцах («вертыкаль», супрацоўнікаў выбарчых камісій, настаўнікаў, урачоў), каб яны за вельмі невялікую плату дапамаглі мне правесці гэтую Канстытуцыю».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# РЭФЕРЭНДУМ ВЫРАШЫЦЬ КАНСТЫТУЦЫЙНЫ КРЫЗІС

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

У той жа час не існуе механізма адклікання дэпутатаў, членаў Канстытуцыйнага суда або адхілення іх ад пасады, а таксама адмены прынятых імі рашэнняў. І гэта пры тым, што дэпутаты выбіраюцца толькі выбаршчыкамі адной акругі, а члены Канстытуцыйнага суда выбіраюцца толькі дэпутатамі.

Цяперашняя Канстытуцыя, якая закранае лёс кожнага грамадзяніна і дзяржавы ў цэлым, на ўсенароднае абмеркаванне не выносілася і была прынята толькі дэпутатамі Вярхоўнага Савета.

Канстытуцыйны суд, які фарміруецца толькі Вярхоўным Саветам, ператварыўся ў прыдатак заканадаўчага органа, у сродак націску на кіраўніка дзяржавы і выканаўчую ўладу.

У экспертным заключэнні Еўрапейскай камісіі па дэмакратыі праз права Савета Еўропы ў адносінах да раздзелаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якія датычаць паўнамоцтваў Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета Беларусі, прама сказана, што «адносіны паміж абодвума інстытутамі распрацаваны такім чынам, што Вярхоўны Савет дамінуе над Прэзідэнтам», што «дапускаецца адхіленне ад канстытуцыйнага прынцыпу раздзялення ўладаў, што адкрывае шлях да ўмяшання ў сферу выканаўчай улады».

Сур'ёзная дапрацоўка Асноўнага закону — Канстытуцыі краіны неабходна перш за ўсё для таго, каб забяспечыць эфектыўную дзейнасць выканаўчай, заканадаўчай і судовай уладаў, а таксама кіраўніка дзяржавы — Прэзідэнта — у інтарэсах беларускага народа.

Менавіта на рэалізацыю гэтай мэты накіравана прапанова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб усенародным рэферэндуме па прыняццю змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю. Менавіта народ — адзіная канстытуцыйная крыніца дзяржаўнай улады — павінен вызначыць круг паўнамоцтваў Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, выканаўчай улады і Канстытуцыйнага суда, прынцыпы іх узаемадзеяння і ўзаемнай адказнасці ў бескарыслівым служэнні свайму народу.

Прапанова аб правядзенні ўсенароднага рэферэндуму не ставіць мэтай замяніць дзеючую Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь у цэлым. Правядзенне рэферэндуму — адзіны спосаб ліквідаваць тыя канстытуцыйныя палажэнні, якія знаходзяцца ў супярэчнасці з прававымі нормамі, сучаснымі грамадскімі патрэбнасцямі і задачамі стварэння эканамічна стабільнай, сацыяльна арыентаванай, прававой дзяржавы. Прамаруджванне ў вырашэнні канстытуцыйнага крызісу можа толькі ўскладніць стваральную работу беларускага грамадства, прывесці да неапраўданых канфліктаў і парушыць грамадзянскую згоду.

Уся работа па падрыхтоўцы рэферэндуму будзе праводзіцца ў абстаноўцы шырокай галоснасці з прыцягненнем кваліфікаваных спецыялістаў, гатовых да канструктыўнага супрацоўніцтва ў імя ўмацавання грамадскай стабільнасці і дзяржаўнасці Беларусі як прэзідэнцкай рэспублікі».

**БЕЛТА.**

## МІНСКІ УНІВЕРМАГ «БЕЛАРУСЬ»: ПАПЯРЭДЖАННЕ ПРА БОМБУ АКАЗАЛАСЯ ПАДМАНАМ

**У мінулую пятніцу ў другой палове дня сталічны універмаг «Беларусь» раптоўна зачыніў свае дзверы для пакупнікоў. У хуткім часе вакол яго ўжо сціскалася шчыльнае кола супрацоўнікаў праваахоўных органаў.**

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», каля 15 гадзін амаль адначасова ў «Бюро паслуг» універмага і ў дзяжурную часць міліцыі патэлефанаваў мужчына, які не назваў сябе, і заявіў, што ва універмагу закладзена бомба. Адміністрацыя адразу ж прыняла рашэнне аб эвакуацыі людзей з будынка гандлёвага цэнтра.

Пасля амаль трох гадзін напружаных пошукаў выбуховага ўстройства сапёры далі «адбой». Бомба не была знойдзена. Універмаг у гэты дзень ужо не адкрыўся, што прывяло да немалых страт, якія, па некаторых ацэнках, склалі звыш 500 мільёнаў рублёў. На след зламысніка пакуль выйсці не ўдалося. Вядзецца следства.

**Сяргей ПРОТАС.**

## ВЫДАВЕЦТВУ «УРАДЖАЙ» — 35 ГАДОЎ!

**За 35 гадоў існавання выдавецтва «Ураджай» выпусціла больш за 5000 назваў кніг і брашур агульным тыражом прыкладна 62 млн. экземпляраў. І яны, безумоўна, знайшлі свайго чытача. А для многіх спецыялістаў-аграрнікаў і радавых рабочых некаторыя кнігі сталі проста настольнымі.**

Але, як і ўсюды, у выдавецтва ёсць свае праблемы. Гэта найперш дарагоўля: адзін улікова-выдавецкі аркуш каштуе 10 млн. рублёў, хоць дзяржава і дацыруе выпуск сацыяльна значнай літаратуры, праблематычным стаў кнігагандаль, асабліва абласны, але вырашэннем гэтага пытання з'явіўся нядаўна дасланы Прэзідэнту ліст «Ці можа вёска жыць без кнігі?» пра неабходнасць актывізацыі кніжнага гандлю на вёсцы, вынікам чаго стаў візіт прадстаўнікоў Гомельскай, Віцебскай вобласці ва «Ураджай», і зараз ёсць спадзяванне, што кнігі на вёсцы будуць распаўсюджвацца шырэй.

У бліжэйшы час плануецца выпусціць літаратуру кшталту «Ваша сядзіба» (на яе ўжо ёсць заказ), «Прысядзібная трусагадоўля і нутрыегадоўля», «Зялёная аптэка ветэрынарыі», «400 парад рыбалову», «Малочнае харчаванне — дзецям».

**Яна САВІЦКАЯ.**

## БЕСПРАЦОЎНЫ СЛУЧЧАНІН БЫЎ ЭКІПІРАВАНЫ НЕ ГОРШ ЗА ШПІЁНА

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», супрацоўнікамі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Міністэрства ўнутраных спраў і крымінальнага вышуку горада Слуцка затрыманы непрацуючы мясцовы жыхар.**

Мяркуючы па арсеналу зброі і іншых рэчаў, якія канфіскавалі ў апошняга, ён рыхтаваўся сама мала да трэцяй сусветнай вайны. Інакш навошта яму спатрэбіліся пісталет Макарава, 46 патронаў да яго, граната РГД-5, два стартавыя пісталеты, радыёстанцыя, наручнікі, 8 чыстых бланкаў вадзіцельскіх пасведчанняў з пячаткамі, пасведчанне супрацоўніка міліцыі старога ўзору і падроблены пашпарт?.. Вядзецца следства.

**Сяргей ПРОТАС.**

## ПАСЛЯ СВЕТЛАГОРСКА ВІЧ-ІНФІЦЫРАВАНЫХ ВЫЯВІЛІ Ў ЖЛОБІНЕ І РАГАЧОВЕ

**Абследаванні на СНІД у Беларусі пачаліся яшчэ ў 1987 годзе. З таго часу штогод выяўлялася 12—14 заражаных. З 1992 года сітуацыя пачала пагаршацца, і часцей за ўсё гэты вірус перадаваўся палавым шляхам і ў асяроддзі наркаманаў. Светлагорск, дарэчы, і раней выклікаў вялікую занепакоенасць па прычыне наркаманіі, а цяпер тут дабавіўся яшчэ і СНІД.**

На гэты момант там зарэгістравана больш як 340 чалавек, заражаных гэтым вірусам.

Сітуацыя настолькі небяспечная, што на дапамогу прыйшлі спецыялісты ААН. Аднак не толькі гэта прымушае насцярожыцца. Новыя сігналы небяспекі паступілі са Жлобіна. 6 жніўня тут было выяўлена 9 чалавек ВІЧ-інфіцыраваных. Хутка пачалі абследаваць наркаманаў, якіх толькі афіцыйна зарэгістравана больш за 70, і ўжо 8 жніўня агульная колькасць інфіцыраваных склала 16 чалавек (на той час было аследавана толькі 25 наркаманаў).

Гарадскія ўлады звярнуліся па дапамогу да прадпрыемстваў і арганізацый. А СНІД тым часам, як гаворыцца, не спіць: ён ужо заявіў аб сабе і ў Рагачове.

**Дзмітрый КАСТЭНКА.**

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 30 (49)

**ГЛЫБОКІ КРЫЗІС з яго «спадарожнікамі» — падзеннем вытворчасці, дэфіцытам дзяржаўнага бюджэту, разбалансіроўкай гандлёвага і плацежнага балансаў, нарастаннем знешняй запазычанасці — фактар, які ўладарна патрабуе тэрміновага рэфарміравання эканомікі. Пры гэтым стаўка толькі на магчымасці дзяржавы аказалася беспадстаўнай. Асэнсаванне гэтага даволі выразна было азначана Прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам на з'ездзе дзелавых колаў Беларусі. Ён аб'явіў таксама аб стварэнні Міністэрства па прадпрымальніцтву і інвестыцыях — органа, прызванага забяспечваць дзяржаўную падтрымку недзяржаўнага сектара нацыянальнай эканомікі.**

**Думак і меркаванняў наконт айчыннага бізнесу можа быць, зразумела, нямала. Сёння па некаторых аспектах закранутай праблематыкі выказваецца прэзідэнт Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА) Міхаіл ЛАЎРЫНОВІЧ.**

*— Міхаіл Фёдаравіч, вы ўсё жыццё паклалі на ўмацаванне дзяржаўнай індустрыі. МАЗ, які вы будавалі і многа гадоў узначальвалі, усё больш прыходзіць у заняпад. Віна не калектыву. На тое ёсць прычыны агульнай постперабудовачнай уласцівасці. І ўсё ж нязвыкла было бачыць вас на трыбуне бізнес-з'езда, калі вы выступалі не за «жорсткі дзяржплан», а за цэнтры падтрымкі прадпрымальніцтва...*

— Настальгічнае пачуццё, зразумела, ёсць. Аднак жыццё бярэ сваё, і супрацiўляцца яго патоку недарэчна. Канверсія мыслення адбываецца не адразу. Многае залежыць ад акружэння, ад людзей, сярод якіх пастаянна знаходзішся. Некалькі гадоў я ўзначальваю асацыяцыю, якая з'яўляецца і арганізацыйным штабам, і навукова-эканамічным клубам. Кожны дзень адкрываеш для сябе штосьці новае.

Нядаўна, напрыклад, былі госці з Масквы, з міжнародных банкаўскіх і прадпрымальніцкіх цэнтраў з мэтай прапрацоўкі бізнес-мерапрыемстваў, звязаных з асваеннем рынку Ціхаакіянска-Азіяцкага рэгіёна. Сам я наведаў галаўную фірму нядаўна заснаванага намі («Звязда», дарэчы, аб гэтым паведамляла) беларуска-расійскага інтэграцыйнага кансорцыума «Белрос ІК». Малады бізнесмен Канстанцін Іваноў, які з'яўляецца яго прэзідэнтам, расказаў аб задумах па абнаўленню сельгастэхнікі ў некалькіх раёнах.

Так што, як бачыце, для тугі, расслабленасці няма ні прычын, ні часу. Я аптыміст не столькі па натуры, колькі па даследаванню і разуменню жыццёвых абставінаў. Цяпер ідзе эканамічны пералом. Старое, аджываўшае натуральным чынам супраціўляецца новаму. Але дыялектычна новае ўсё роўна возьме сваё і ўсталюецца. І вельмі важна дапамагчы гэтаму.

*— Дапамогі цяпер просяць усе. Створанае міністэрства напэўна заваляць заяўкамі на крэдыты, ільготы, іншыя прэферэнцыі. Ці азначае гэта, што наступіць паступовае пераразмеркаванне рэсурсаў на карысць недзяржаўнага сектара, няхай нават выбарачна?*

— Ні ў якім разе. Я наогул не разглядаў бы такога роду просьбы. Які ж ты прадпрымальнік, калі не можаш абысціся без падпорак, як немаўля без «хадункоў»? Тады ў цябе або бракуе ведаў для справы, або ты наіўны, або жулікаваты. Па праўдзе кажучы, дзіўна чуць і чытаць, як нейкія, здавалася б, сур'ёзныя людзі ад бізнесу вельмі эмацыянальна патрабуюць ад улад зніжэння падаткаў, адмены пошлін, наогул устанаўлення рэжыму асаблівага спрыяння для малых, сумесных прадпрыемстваў і г. д. І ўсё гэта, маўляў, у імя занятасці насельніцтва, а то і больш «крута» — дзеля сцвярджэння прынцыпаў лібералізму, дэмакратыі. Чысцейшай вады шулерства.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка вельмі падрабязна расказаў, як цэлая група вядомых, шырока рэкламуемых фірмаў выпрасіла для сябе персанальныя льготы па пошлінах з кампенсацыйнымі абавязацельствамі, а потым іх кіраўнікі ўхіляліся нават ад бюджэтных плацяжоў, не гаворачы аб іншым. Не ўмееш весці справу ў існуючых умовах, роўных для ўсіх, — не бярыся або ціха прызнай сваю несамастойнасць і не тлумі людзям галавы. Бывае так, што ці фантастычным праектам, а часцей пражэктам, ці ўгодніцтвам, ці хабарам прanыра знаходзіць шлях да вырашальнай рэзалюцыі, да таннага крэдыту, да іншай якойсьці выгады — і якраз менавіта гэта некаторыя называюць «прадпрымальнасцю». Хітруюць, паколькі разумеюць: сапраўдны бізнесмен шукае і знаходзіць прыбытак у стварэнні, у рэальнай справе, а прайдзісвет — у блізкасці да ўлады.



## ЦЫВІЛІЗАВАНЫ БІЗНЕСМЕН РЭАЛІЗУЕ СЯБЕ Ў СПРАВЕ. ПРАНЫРА — ШУКАЕ БЛІЗКАСЦІ ДА ЎЛАДЫ

Так, прадпрымальніцтва як творча-прадукцыйны занятак трэба падтрымліваць паляпшэннем агульнага дзелавога клімату ў краіне. Аднак ніякіх пераваг, гэтак жа як і ўціску, быць не павінна. Новае міністэрства, мяркую, не стане ведамствам апекі прыватных фірмаў, як здаецца некаторым. Яно заклікана функцыянаваць як цэнтр, які акумулюе свежыя ідэі, распрацоўвае маштабныя падыходы, плануе спосабы рэалізацыі праектаў дзяржаўнай значнасці. Пры гэтым варта максімальна выкарыстаць магчымасці і недзяржаўных структур, хоць бы і ў якасці «палігоннай абкаткі» на іх (па згодзе і гатоўнасці, зразумела) новых бізнес-тэхналогій.

*— Якую ролю адводзіць сабе ў падтрымцы прадпрымальніцтва ваша асацыяцыя?*

— БНПА нефармалізавана аб'ядноўвае большасць буйных прадпрыемстваў краіны. Практычна на ўсіх — становішча цяжкае. Тут ёсць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны. Першыя пакінем на вырашэнне палітыкаў і ўрада. Звернемся да другіх. Яны, увогуле, таксама вядомыя:

— недастатковая падрыхтаванасць спецыялістаў заводскіх кіруючых службаў да дзеянняў у рынaчных умовах, адсутнасць сучаснага маркетынгу;

— прадукцыя наша ў масе невысокай якасці, мала новых вырабаў;

— адсутнічаюць навыкі і пазнанні ў аперыраванні рынaчным, асабліва фінансавым інструментарыем; пры ўзаемадзеянні, скажам, з расійскімі менеджэрамі нашы спецыялісты выглядаюць неперакaнаўча;

— прыняты Закон аб банкруцтве, і на шэрагу прадпрыемстваў пачынаюць панікаваць, а вось аб санацыі, аб тым, хто і як яе будзе праводзіць — паўсюдна мала ведаюць.

Існуюць яшчэ дзесяткі праблем. Каму з імі справіцца? Аказваецца, ёсць каму. Сярод прадпрымальнікаў нямала такіх, хто практычна і вельмі паспяхова карыстаецца сучаснымі рынaчнымі методыкамі. Але — у даволі вузкіх сегментах. Аднак высокакваліфікаваныя адзіночкі таксама нямала значаць, асабліва калі мы камплектуем з іх групы прымянення метадаў «марфалагічнага аналізу», «мазгавой атакі», «дэльфі». Даследаванні гэтыя носяць прыкладны характар галіновага і міжгаліновага назначэння. Напрацоўкі непасрэдна выкарыстоўваюцца пры аздараўленні некалькіх перыферыйных прадпрыемстваў, аб чым у далейшым можна будзе расказаць грунтоўна.

Яшчэ адзін напрамак — арганізацыя гаспадарчых бізнес-груп па комплекснаму ўзаемадзеянню з аналагічнымі структурамі, створанымі пры дапамозе Міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў у краінах, якія ўваходзілі ў былы СЭУ. Адна з іх праблемна арыентавана на Балгарыю і ў цэлым на Балканскі рэгіён і называецца кансорцыумам «Балкан-курс». Пасля візіту кіраўніка дзяржавы А. Лукашэнкі ў Турцыю перад гэтай групай адкрываюцца новыя мэтавыя магчымасці.

Нарэшце, для асваення сучасных вытворчых тэхналогій, павышэння канкурэнтаздольнасці айчыннай прадукцыі, давядзення яе да ўзроўню сусветных стандартаў сумесна з АН Беларусі мы заснавалі дыверсіфікацыйны цэнтр «Белмашэксперт», здольны акумуліраваць навацыі і задавальняць інтарэсы фірмаў самай рознай накіраванасці.

У такім бізнесе якраз і забяспечваецца спалучэнне партнёрскіх дзяржаўных і прыватных інтарэсаў, і, зразумела, падтрымка грамадская, адміністрацыйная, а таксама буйных міжнародных бізнес-саюзаў. Зразумела, размова не ідзе аб альтруізме, матэрыяльная выгада прадпрымальнікаў абавязкова ідзе ў разлік. І з намі супрацоўнічаюць цяпер больш за сто недзяржаўных структур з усіх абласцей. Што ж, разам — значыць і больш эфектыўна.

**Гутарыў Аляксандр ЦІМАФЕЕЎ.**

***АКТУАЛЬНА***

## ЭКАНОМІЯ НА ДАРОГАХ ПРЫНОСІЦЬ ТОЛЬКІ СТРАТЫ

Эх, дарогі!

Хто з нас не праклінаў іх, калі паездка па шматлікіх калдобінах вытрасала з чалавека ўсю душу. Але душа — гэта можа яшчэ нічога. А вось эканоміка... Амерыканцы не выпадкова гавораць: «У нас добрыя дарогі не таму, што мы — багатая краіна. Наадварот, наша багацце ад таго, што маем добрыя дарогі». Яно і зразумела. У нас з-за дрэнных дарог аўтамабіль расходуе ў 1,5 раза больш паліва, чым у развітых замежных краінах, кошт яго абслугоўвання ўзрастае ў 2-3 разы, тэрмін службы аўтапакрышак скарачаецца ў 1,2 раза, а аўтамабіля — на 35 працэнтаў. Пры гэтым прадукцыйнасць аўтатранспартных сродкаў зніжаецца ў 2 разы. А з-за бездарожжа ў сельскай мясцовасці гаспадаркі штогод страчваюць да 10 працэнтаў ураджаю. У цэлым жа па рэспубліцы, паводле падлікаў спецыялістаў, нездавальняючы стан дарог прыносіць за год 4,6 трыльёна рублёў страт (у дзеючых цэнах). Для параўнання: затраты на будаўніцтва, рэканструкцыю, рамонт і ўтрыманне дарог летась склалі 2,8 трыльёна рублёў.

— Толькі па тэрыторыі Мінскай вобласці праходзіць больш як 30 тысяч кіламетраў аўтамабільных дарог, — сказаў начальнік «Мінскаблдарбуда» П. Гаварко. — З іх 13,5 тысячы кіламетраў — агульнага карыстання (рэспубліканскія і мясцовыя), і абслугоўваюцца яны дарожнымі арганізацыямі.

Дарожная гаспадарка — выгадны аб'ект для інвестыцый. Капітальныя ўкладанні лічацца эфектыўнымі пры іх акупнасці за 8 гадоў. Затраты ж на дарогі акупляюцца за 3 гады.

На жаль, тут якраз і «эканомяць». Лічаць: пражывём і так. Таму і прыходзіцца нам з вялікай цяжкасцю адваёўваць дарожны фонд — адзіную крыніцу фінансавання дарожнай гаспадаркі.

Наша аб'яднанне абслугоўвае амаль 90 працэнтаў усіх дарог агульнага карыстання і звыш 700 мастоў. Для рамонту і ўтрымання іх у належным стане штогод патрэбна каля 1 трыльёна рублёў. Мы ж атрымалі летась толькі 666 мільярдаў. Амаль 76 працэнтаў дарожнага фонду — гэта адлічэнні прадпрыемстваў і арганізацый Мінска.

Не ўсе сродкі з гэтага фонду ідуць на дарогі. За іх мы рамантуем таксама вуліцы ў райцэнтрах і гарадскіх пасёлках.

У апошні час сутыкнуліся з наступнай праблемай. Раней ведамасныя дарогі будавалі падраздзяленні нашага аб'яднання. Летась заказчыкам па іх узвядзенню Мінсельгасхарч вызначыў калгасы і саўгасы, якія перадалі нам на баланс толькі 2,4 кіламетра дарог, у той час як мы ўзводзілі да 170 кіламетраў дарог з цвёрдым пакрыццём. Думаецца, што незалежна ад крыніц фінансавання адзіным заказчыкам тут павінны выступаць спецыялісты-дарожнікі.

За апошнія гады мы стварылі добрую вытворчую базу з кар'ернай гаспадаркай, асфальтабетоннымі заводамі, бітумасховішчам і іншымі неабходнымі збудаваннямі і абсталяваннем. У нас цяпер 38 асфальтазмешвальных установак, якія пры адназменнай рабоце змогуць выпусціць 980 тысяч тон асфальтабетонных сумесяў, што дазваляе асфальтаваць штогод каля 500 кіламетраў аўтадарог...

Ды толькі вось наяўныя магутнасці поўнасцю не выкарыстоўваюцца. Сацыяльна-эканамічная абстаноўка ў рэспубліцы не дазваляе нам разгарнуцца на ўсю моц. Рэзкі рост кошту матэрыялаў і энерганосьбітаў, аўтаперавозак, а таксама зніжэнне паступлення сродкаў у дарожны фонд адкінулі тэмпы развіцця сеткі дарог на ўзровень 1988 года. Аб'яднанне было вымушана змяніць прыярытэты — зменшыць аб'ёмы капітальнага рамонту аўтадарог і павялічыць расходы па іх сярэдняму рамонту і ўтрыманню. А ў выніку сёння ўжо кожны другі кіламетр аўтадарог агульнага карыстання эксплуатуецца са скончанымі тэрмінамі іх капітальнага рамонту і каля 50 працэнтаў мастоў — з абмежаваннем грузападымальнасці і габарытаў. Больш як 3 тысячы населеных пунктаў вобласці з 5370 не маюць пад'ездаў нават з гравійным пакрыццём.

Лічым правільным перадаваць заказы выканаўцам на конкурснай аснове. Так, напрыклад, падрад на рэканструкцыю дарогі Паперня—Радашковічы выйграў дарожна-будаўнічы трэст № 7 з цаной на 16 працэнтаў ніжэйшай за базавую.

**— Вы і без конкурсу можаце вызначыць ім канкрэтныя заданні і кантраляваць тэрміны выканання, якасць...**

— Можам. Толькі жыццё настойліва патрабуе перабудаваць сістэму кіравання мясцовай дарожнай гаспадаркай. Да нас далучана дырэкцыя будуемых аўтадарог, а зараз вырашана пытанне аб надзяленні структурных адзінак — дарожных рамонтна-будаўнічых упраўленняў юрыдычнай і гаспадарчай самастойнасцю з тым, каб павысіць адказнасць усіх звёнаў за канчатковыя вынікі работы. З упраўленнямі якраз і заключаюцца дагаворы на рамонт і ўтрыманне дарог. Яны выступаюць у ролі падрадчыка, а аб'яднанне выконвае функцыі заказчыка...

**Пётр СІДАРОВІЧ.**

## БЫЛІ Б ГРОШЫ — КЛІЕНТЫ БУДУЦЬ!





***Новая аперацыйная зала для юрыдычных і фізічных асоб адкрылася ў Акцыянерным ашчадным банку «Беларусбанк».***

***Будаўнікі выкарысталі тут самыя сучасныя матэрыялы — гукапаглынальныя, звыштрывалыя. У спалучэнні з высокай падрыхтоўкай персаналу гэта дазволіць абслугоўваць кліентаў на вышэйшым сусветным узроўні, укараняць самыя новыя банкаўскія тэхналогіі, пашыраць спектр паслуг. Спецыяльна абсталяваныя сховішчы каштоўнасцей і дакументаў маюць дзевяць ступеняў абароны і прайшлі міжнародную сертыфікацыю.***

***НА ЗДЫМКАХ:***

- ***у новай аперацыйнай зале;***
- ***месца, дзе працуе касірка Леакадзія ВЕРШАЛЬ, надзейна абаронена з усіх бакоў.***

***Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.***

# На рэферэндуме людзі будуць ацэньваць не столькі Канстытуцыю, колькі палітыку Прэзідэнта

**НА БЛІЖЭЙШЫЯ ТРЫ МЕСЯЦЫ галоўнай унутрыпалітычнай праблемай у Беларусі будзе падрыхтоўка і правядзенне ініцыяванага Прэзідэнтам чарговага рэферэндуму.**

Два з чатырох прапанаваных пытанняў (пра святкаванне Дня незалежнасці і пра новую рэдакцыю Канстытуцыі) выносяцца Аляксандрам Лукашэнкам на абавязковы рэферэндум, два астатнія (пра свабодную куплю і продаж зямлі і пра адмену смяротнага пакарання) — для прыняцця кансультацыйнага рашэння.

Галоўнае з гэтых пытанняў, безумоўна, датычыць Канстытуцыі. У дасланым у Вярхоўны Савет прэзідэнцкім праекце пастановы гэта пытанне значыцца ў пераліку пад другім нумарам і сфармулявана наступным чынам: «Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам («за» ці «супраць»).

Няма сумнення, што праблема Канстытуцыі для пераважнай большасці радавых беларускіх грамадзян цьмяная, загадкавая і малазразумелая. Шкада, што сацыялагічныя службы за два гады не паспрабавалі высветліць, напрыклад, такое пытанне: якая частка народа дэталёва азнаёмілася з тэкстам цяперашняй Канстытуцыі ўзору 1994 года? Вынікі маглі б быць ашаламляльнымі. (У тым сэнсе, што доля такіх людзей — мізэрная.)

Зразумела, што ніякіх ілюзій наконт узроўню прававой культуры ў нашым грамадстве быць не можа. Гэтай культуры не было на чым узрасці: савецкая сістэма культывавала зусім іншыя каштоўнасці. А цяпер, у хатычны і зменлівы час, калі народ перажывае такія цяжкасці, гэта праблема і ўвогуле адыходзіць для абывацеля на ўзровень незразумелых гульняў палітыкаў.

Так што сэнс пытання для значнай (калі не большай) часткі выбаршчыкаў звядзецца да значна больш простай і зразумелай формулы «Ці падтрымліваеце вы Прэзідэнта?»

Новая рэдакцыя Канстытуцыі выпрацоўваецца цяпер у нетрах прэзідэнцкай Адміністрацыі і застаецца пакуль таямніцай для грамадскасці. Аднак ужо сёння ясна, што размова ідзе пра значнае ўмацаванне ўлады Прэзідэнта, увядзенне яго кантролю за фарміраваннем парламента і Канстытуцыйнага суда.

Варта нагадаць: яшчэ два гады таму, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў і адразу пасля іх Аляксандр Лукашэнка неадночы заўважаў, што паводле цяперашняй Канстытуцыі Прэзідэнт надзелены «царскімі» паўнамоцтвамі. Ён жа растлумачваў прычыны гэтага: Канстытуцыя ствараласа «пад Кебіча», які па сутнасці дырыжыраваў парламенцкай большасцю.

Чаму гэтых «царскіх» паўнамоцтваў аказалася недастаткова? І якая палітычная сістэма ўзнікне ў Беларусі пасля таго, як Прэзідэнт атрымае рычагі ўздзеяння на ўсе астатнія галіны ўлады і яны па сутнасці могуць страціць самастойнасць?

Пры аналізе гэтай сітуацыі цяжка пазбегнуць аналогій з расійскімі падзеямі ўзору 1993 года. Менавіта Барыс Ельцын паказаў спосаб умацавання сваёй улады шляхам плебісцыту па новай Канстытуцыі. Потым канфлікт з заканадаўчай уладай быў вычарпаны з дапамогай расстрэлу Белага дома. Захад прамаўчаў: Ельцын быў для яго «сваім» і змагаўся з камуністычным Вярхоўным Саветам у імя дэмакратыі.

Прэзідэнт Беларусі, верагодна, таксама не сумняваецца ў поспеху і ў чарговай эфектнай (і, магчыма, канчатковай) перамозе над усімі сваімі палітычнымі праціўнікамі. Яго шанцы на перамогу сапраўды вялікія.

Але існуе і шмат абставінаў, якія ўносяць у інтрыгу прыкметны элемент рызыкі. Каб унесці змены ў Канстытуцыю, за гэтыя змены павінна прагаласаваць больш за палову ад спісачнага саставу выбаршчыкаў. Дабіцца такой пераканаўчай падтрымкі магчыма толькі ў тым выпадку, калі ўдасца прыкаваць да гэтай праблемы пільную ўвагу грамадства. У сваю чаргу, для гэтага, як паказвае прыклад мінулага рэферэндуму, пажадана сітуацыя зразумелага для шырокіх народных мас палітычнага процістаяння, якое б высвеціла тыя сілы, якія замінаюць Прэзідэнту. Народны фронт пасля паражэння на парламенцкіх выбарах і эміграцыі Зянона Пазняка страціў сваё значэнне пераканаўчага яркага праціўніка. Выступаць у ролі тормаза камуністаў небяспечна: іх уплыў у грамадстве па-ранейшаму значны. Застаецца амбіцыйныя палітыкі, кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, Канстытуцыйны суд.

Гэтыя праціўнікі для Прэзідэнта на рэферэндуме значна больш небяспечныя, чым быў БНФ у маі 1995 года. Па-першае, яны праводзяць намнога больш умераную лінію, пазбягаюць рэзкіх рухаў і заяў, «нацыяналістычных» лозунгаў.

Па-другое, яны маюць магчымасць улічыць сумны вопыт сваіх расійскіх калег, выпрацоўваючы стратэгію і тактыку дзеяння.

Па-трэцяе, сярод гэтых сіл ёсць дастаткова разумных людзей, здольных выпрацаваць такі сцэнарый восеньскіх падзей, які можа змяніць сітуацыю не на карысць Прэзідэнта (наколькі вядома, ужо сёння абдумваюцца пытанні, якія могуць быць вынесены на рэферэндум адначасова з «прэзідэнцкімі» і «сыграць» супраць Прэзідэнта: напрыклад, аб эканамічных выніках палітыкі ўрада за апошнія два гады).

І ўсё ж Прэзідэнт ідзе на рызыкоўны крок, бо ўпэўнены ва ўласных сілах і ў падтрымцы народа. У выпадку, калі яму ўдасца ажыццявіць задуманае, у Беларусі яшчэ доўгі час не будзе сілы, здольнай пярэчыць палітыцы першага ўсенародна выбранага Прэзідэнта.

Што датычыць астатніх пытанняў рэферэндуму, то яны ў прапанаваным Прэзідэнтам праекце сфармуляваны наступным чынам:

1. Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне.
2. Ці выступаеце вы за свабодную, без абмежаванняў куплю і продаж зямлі?
3. Ці падтрымліваеце Вы адмену смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь?

У пісьме, адрасаваным Вярхоўнаму Савету, Прэзідэнт паведамляе, што новая рэдакцыя Канстытуцыі паступіць у парламент у першай палове верасня г. г.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# СВЯТЫ І БУДНІ НАШЫХ ГАРАДОЎ...

**ДРУГОГА ЖНІЎНЯ ў Баранавічах прайшоў абласны семінар па добраўпарадкаванню. У мінулым годзе Баранавічы па вобласці занялі першае месца па чысціні сваіх вуліц ды газонаў, вось і заслужылі такое права.**

Хаця падзея даволі ардынарная, тым не меней, некаторыя моманты выклікаюць цікавасць.

Шэраг фірмаў з розных гарадоў Беларусі перад гарвыканкомам выставілі сваю прадукцыю. Вялікі выбар шведскіх бензапіл, газонакасілак ды розных інструментаў для саду паказала фірма «Белфарэст». Прапаноўвалася многа імпартных тавараў. Прадукцыя хоць і высокай якасці, але цэны насцярожваюць.

Пяцілітровая бляшанка фарбы — у межах аднаго мільёна, а вось мясцовы магазін прадаваў электратавары фірмы «BOSCH». Звычайны дрыль каштуе 1000 долараў, хаця ў Санкт-Пецярбургу цана яго 360—400 долараў. Яскравы прыклад, што адбываецца з цаной, калі за справу бяруцца пасрэднікі.

Прадстаўнікі фірмаў мітусіліся і раздавалі каталогі, раўлі маторы ды грукаталі адбойныя малаткі, кожны імкнуўся зрабіць рэкламу. Тут усё ясна: рынак.

Прысутнасць на семінары работнікаў камунальнай гаспадаркі, архітэктараў і іншых асоб, звязаных з добраўпарадкаваннем, зразумелая. А вось калі кіраўнікі раёнаў ходзяць за архітэктарам і слухаюць, чаму тут не расце трава, а там, на тратуары, кепска ляжыць плітка, то думаем, ці іх гэта справа. У кожным раёне ёсць адпаведныя службы, якія павінны ўсім гэтым займацца, за гэта яны і зарплату атрымліваюць. Таму задача старшынь райвыканкомаў — найперш, умець арганізаваць работу гэтых службаў, каб яны самі маглі вырашаць, калі касіць траву на газонах.

Ды і выезд удзельнікаў семінара ў аазісы баранавіцкага добраўпарадкавання — гэта толькі адзін бок медаля, бо літаральна ў ста метрах ад цэнтра ёсць вуліцы, стан якіх і крытыкаваць не хочацца. А ўсё звесці да недахвату фінансаў было б не зусім сумленна, бо ў маі г. г. Баранавічы святкавалі свой 125 гадовы юбілей. Свята працягвалася тры дні. І, як сказаў адзін мінскі начальнік, на такое здольна не кожная краіна. Трыццаць духавых аркестраў выводзілі свае мелодыі ў гэтыя дні.

Многія мільярды былі затрачаны на свята, якое стаміла ўсіх. Па-дзіўнаму выглядаў горад. Днём усё, як у савецкіх людзей. Музыка і буфеты, салдаты і парашутысты, пастроенае ў калоны маладое пакаленне і металічныя агароджы, а наступаў вечар — і горад правальваўся ў цемру.

Цэнтральная вуліца. Ніводнага ліхтара і толькі цыгарэт агеньчыкі напаміналі, што жыццё працягваецца. Не горад, а прыфрантавая зона. Эканомілі на кілаватах.

Ніхто не супраць юбілеяў, святаў і семінараў, але ўсё павінна ўзгадняцца з рэаліямі сённяшняга дня, эканамічнай сітуацыяй у краіне.

Відавочна, семінар і закончыўся б ціха і непрыметна, бо пасля абеду ўдзельнікі знаходзіліся ў дрымотна-спакойным стане. І толькі выступленне старшыні аблвыканкома У. Заламая парушыла спакой.

Выявілася, што добраўпарадкаванне — гэта не толькі чысціня на вуліцах і афарбоўка будынкаў, яно мае больш шырокі дыяпазон.

— Знаходзячыся ў былым Саюзе, Беларусь не мела свайго адметнага аблічча, яна размывалася ў бязмежных прасторах тагачаснай дзяржавы, і сёння нам неабходна адрадзіць Беларусь, прыдаць ёй свой выгляд, — сказаў старшыня Брэсцкага аблвыканкома.

Ёсць у вобласці пэўныя праблемы з якасцю вады і ачышчальнымі збудаваннямі. А вёска ўвогуле засталася па-за ўвагай. Там ніхто не сочыць за добраўпарадкаваннем. Дамы будуюцца як прыйдзецца, смецце скідваецца дзе захочацца...

Усплыла яшчэ адна праблема, звязаная з вышэйсказаным. Гэта стык горада і раёна. Часта горад падступае да вёскі і яна трапляе ў перспектыўную зону, фактычна перадаецца гораду, але ў гэтай вёсцы гэтулькі ўсяго наблытана з вуліцамі і дамамі, што цяжка бывае выправіць становішча.

Але адно выказванне Уладзіміра Заламая заслугоўвае асаблівай увагі, яно можа ўяўляць цікавасць для ўсёй Беларусі.

Мы добра ведаем, у якім заняпадзе знаходзяцца нашы мястэчкі. Пахіленыя платы і вуліцы ў калдобінах, мурзатыя грамадскія дамы і паўразбураныя каміны кацельняў, а многія з гэтых мястэчак маюць многавекавую гісторыю і яшчэ часам захавалі хоць нейкую адметнасць. Пасля вядомай рэарганізацыі частка гарадоў Беларусі з'яўляюцца толькі раённымі цэнтрамі, а частка маюць гарвыканкомы і райвыканкомы. Дзве адміністрацыі ў адным горадзе. Старшыня аблвыканкома лічыць, што ў такіх выпадках райвыканкомы павінны ў сваіх раёнах выбраць мястэчкі, якія паступова ператварыліся б у раённыя цэнтры.

Была выказана і канкрэтная прапанова. Цэнтрам Баранавіцкага раёна можа быць Гарадзішча, Пінскага — Лагішын, Брэсцкага — Дамачава і г. д.

Гарвыканкомы займаліся б горадам, а райвыканкомы ўдзялілі б увагу выбранаму мястэчку. А гэта, безумоўна, стымулявала б іх развіццё. Рацыянальнае зерне ў гэтай задуме ёсць, добра было б, каб яна атрымала падтрымку на дзяржаўным узроўні.

Што датычыцца правядзення суботнікаў па добраўпарадкаванню, то гэтае мерапрыемства мае права на жыццё. Іншая справа, калі пад маркай суботнікаў прадпрыемствы прымушаюць пералічваць грошы ў бюджэт горада, каб залатаць фінансавыя дзіры. Прыёмы гэтыя знаёмы, і яны ў прынцыпе нічога не мяняюць.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*НАЎЗДАГОН*

# ФЕДЭРАЦЫЯ ПРАФСАЮЗАЎ СТАВІЦЬ «НЕЗДАВАЛЬНЯЮЧА»

**ПРЭЗІДЫУМ Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі абмеркаваў вынікі выканання Генеральнага пагаднення за шэсць месяцаў 1996 года. Наш карэспандэнт гутарыць з загадчыкам сацыяльна-эканамічнага аддзела ФПБ Іванам ГУРСКІМ.**

***— На думку прафсаюзаў, якой ацэнкі заслугоўвае ход выканання Генеральнага пагаднення?***

— Варта нагадаць, што цяперашняе Генеральнае пагадненне паміж урадам, наймальнікамі і прафсаюзамі ўключае 47 пунктаў, большасць з якіх хоць з цяжкасцямі, але выконваецца.

Разам з тым сёння прафсаюзы цікавіць перш-наперш не колькасць, а асноўныя палажэнні гэтага пагаднення — такія, скажам, як памеры мінімальнай зарплаты і тарыфнай стаўкі І разраду, запазычанасць па зарплаце, узровень беспрацоўя, фінансаванне мерапрыемстваў па аздараўленню насельніцтва. На жаль, якраз гэтыя паказчыкі задаволіць прафсаюзы ніяк не могуць. Таму ў цэлым выкананне Генеральнага пагаднення ацэнена намі як нездавальняючае.

***— У такіх варунках вашы далейшыя дзеянні?***

— Аб іх гаворка пойдзе на пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях. Зрэшты, прапановы прафсаюзаў вядомыя, у першую чаргу яны датычацца матэрыяльна-фінансавага аздараўлення прадпрыемстваў, бо ў выніку шмат праблем вырашыцца аўтаматычна.

Калі больш канкрэтна, мы прапануем перагледзець падатковае заканадаўства, прыняць меры па абароне айчынных вытворцаў, правесці пераарыентацыю самых прадпрыемстваў і г. д.

Апроч таго, прафсаюзы маюць намер сур'ёзна паставіць пытанне аб павышэнні з 1 верасня памераў мінімальнай зарплаты і тарыфнай стаўкі І разраду: тая ж тарыфная стаўка І разраду павінна адпавядаць хаця б запісаным у Генеральным пагадненні 12 працэнтам мінімальнага спажывецкага бюджэту. Для параўнання: зараз яна роўная 10 працэнтам.

***— Ці вынікае з вашых папярэдніх слоў, што прафсаюзы разлічваюць на канкрэтныя крокі ўрада ўжо да верасня?***

— Так. Бо іншага выйсця зараз, відаць, ужо няма.

**Сяргей ГРЫБ.**

# У ВІЦЕБСКУ БЫЛІ АБМЕРКАВАНЫ ПРАБЛЕМЫ ПАДРЫХТОЎКІ КАДРАЎ КІРАВАННЯ НА БЕЛАРУСІ

**У горадзе над Дзвіной адбыўся заключны, у рамках праграмы «Эканамічныя рэформы ў Беларусі» семінар «Кадры і кіраванне». Цыкл семінараў быў арганізаваны Віцебскім аддзяленнем Фонду Сораса і Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД).**

Праблема недахопу высокакваліфікаваных кадраў стаіць перад Беларуссю цяпер як ніколі востра. Са слоў намесніка дырэктара фінансава-інвестыцыйнай кампаніі «ФІКО» Міхаіла Залескага сістэма падрыхтоўкі буйных кіраўнікоў знаходзіцца цяпер на стадыі поўнай дэградацыі.

Да апошняга часу ў Беларусі дзейнічала школа кіравання і актыўна працавалі інстытуты павышэння кваліфікацыі. Яны засталіся і цяпер. Але пры цяперашнім узроўні фінансавання гэтых мерапрыемстваў сістэма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў сваім «вучням» істотных ведаў даць ужо не можа.

Для выпраўлення сітуацыі патрэбны больш цесныя кантакты і зносіны з практыкамі і тэарэтыкамі дзяржкіравання. Тэарэтыкаў высокага ўзроўню ў рэспубліцы вельмі мала, а каб вучыцца ў практыкаў, патрэбны поўныя ўмовы. Міхаіл Залескі адзначыў, што менавіта рэальнае стварэнне сістэмы падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі, стажыроўкі, сумеснай паралельнай работы належнай якасці істотна павысіць прафесіянальны ўзровень кіраўнікоў усіх сфер кіравання. А гэта прывядзе да хуткаснага правядзення сацыяльна-эканамічных рэформаў і ў канчатковым выніку да павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва Беларусі.

Дырэктар НІСЭПД Алег Манаеў падкрэсліў, што апошнім часам неабгрунтавана заніжана роля кіраўнікоў ніжніх узроўняў улады.

На яго думку, у Беларусі зноў знаходзіць спрыяльную глебу прамое безапеляцыйнае кіраванне «зверху—уніз». А гэта можа прывесці да сумных вынікаў. Бо кіраўнікі на месцах павінны прымаць рашэнні, улічваючы пры гэтым канкрэтныя, спецыфічныя ўмовы свайго рэгіёна. Прыводзіўся прыклад старшыні Бешанковіцкага райвыканкома Васіля Латушкіна. Гібкае, дэмакратычнае кіраванне гэтага гаспадаркі дазволіла Бешанковіцкаму раёну літаральна за год перайсці з васемнаццатага на другое месца па ўсіх сельскагаспадарчых паказчыках.

**Сяргей КУРКАЧ.**

**Уладзімір РЫЖАНКОЎ,**
**міністр спорту і турызму РБ,**
**прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта:**

## «Амерыканцы лічаць, што Злучаныя Штаты найвышэй за ўсіх. Гэта іх права. Але нам нядрэнна было б павучыцца ў іх патрыятызму»



**Крыху больш за тыдзень прайшло пасля заканчэння XXVI летніх Алімпійскіх гульняў у Атланце. Семнаццаць алімпійскіх дзён ужо сталі здабыткам гісторыі. Амаль 200 краін свету спрабавалі ўнесці ў яе сваю лепту ў выглядзе спартыўных дасягненняў, сусветных рэкордаў, заваяваных медалёў. Першую самастойную спробу ў гэтым накірунку зрабіла і «летняя» беларуская каманда. Вынік выступленняў — 15 медалёў: адзін залаты, 6 сярэбраных і 8 бронзавых — выклікаў шмат эмоцый самага рознага толку: ад усхвалення нашых алімпійцаў да выказванняў аб правале многіх «зорак» айчыннага спорту і каманды ў цэлым.**

**Вядома, у такім выпадку лепш за ўсё ведаць «зверху», напрыклад, з пазіцыі прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Рыжанкова, які быў у Атланце кіраўніком усёй спартыўнай дэлегацыі рэспублікі.**

**— Уладзімір Мікалаевіч, звычайна «разбор палётаў», падвядзенне вынікаў робіцца не адразу: тут нельга пароць гарачку. Здаецца, тыдзень чакання — у самы раз, каб даць ацэнку самастойнаму «плаванню» беларусаў на амерыканскай зямлі.**

— Сапраўды, сёння ўжо можна больш спакойна ацаніць дэбют нашай «летняй» каманды ў Атланце, хоць страсці кіпець будуць яшчэ доўга. А пакуль, па яшчэ гарачых слядах, можна з упэўненасцю сказаць, што беларуская каманда за акіянам выступіла добра. Мяркуйце самі: па агульнай колькасці заваяваных медалёў мы на 20-м месцы ў свеце, а па колькасці набраных ачкоў, з улікам заваяваных месцаў з 1-га па 8-е, за якія Міжнародны алімпійскі камітэт узнагароджвае, Беларусь на 18-й пазіцыі на планеце.

**— А калі не ўдавацца ў матэматычныя падлікі, то многія нашы надзеі па Алімпіядзе наогул выступілі бясколерна.**

— Так. І на тое былі пэўныя прычыны. Аднак аб іх, у якасці апраўдання, гаварыць не хацелася б, хоць «разбор палётаў» яшчэ наперадзе.

Я задаволены тым, што ў нас з'явілася шмат спартсменаў, выпеставаных менавіта беларускімі трэнерамі: Хадатовіч, Мядзведзеў, Ліштван. І менавіта яны зрабілі для нашага поспеху значна больш, чым многія знакамітасці, ад якіх мы чакалі медалёў.

Скажу болей: вынікі летніх Гульняў у Атланце паказалі, што ў Беларусі ёсць вялікія патэнцыяльныя магчымасці, каб добра падрыхтавацца да наступных стартаў чатырохгоддзя, якія пройдуць у аўстралійскім Сіднеі.

**— Уладзімір Мікалаевіч, вы ледзь не працытавалі прэзідэнта Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуана Антоніа Самаранча, з вуснаў якога аднойчы зляцела фраза, што «Беларусь — гэта адна з самых спартыўных краін свету. Праўда, ёй яшчэ трэба раскрыць свае патэнцыяльныя магчымасці».**

— Я нячаста займаюся цытаваннем, проста гляджу на рэчы рэальна. Дарэчы, нядаўна мы атрымалі факс аб тым, што спартыўны дырэктар МАКа спадар Фелі павіншаваў НАК Беларусі з паспяховым выступленнем нашых атлетаў у Амерыцы. Вось і мяркуйце, як мы выступілі.

**— А як жа быць з тым, што на ўсіх спартсменаў заваявана толькі адна залатая ўзнагарода?**

— Вядома, у Атланце мы павінны былі заваяваць больш «золата». Не выйшла. Аднак не трэба з гэтага рабіць трагедыю. Па-першае, вышэйшую прыступку п'едэстала ад ніжэйшай звычайна аддзяляе адно імгненне. І тут ужо як пашанцуе, ці наколькі табе будуць сімпатызаваць арбітры. А па-другое, усе балельшчыкі чамусьці сувымяраюць Беларусь з былым Савецкім Саюзам, у якога ледзь не ў кожнай Міжнароднай федэрацыі было шырокае прадстаўніцтва суддзяў, тэхнічных дырэктараў і іншых работнікаў, якія маглі пастаяць за сваіх спартсменаў у закуліснай барацьбе за медалі.

Мы зараз павінны выдатна ўсвядоміць, што Беларусь — не супердзяржава, а рэспубліка ў Цэнтральнай Еўропе з 10-мільённым насельніцтвам, якая не можа пахваліцца поспехамі ў эканоміцы. А, як вы ведаеце, развіццё спорту напрамую залежыць ад эканамічнай стабільнасці. Праўда, не хачу кінуць камень у дзяржаўны агарод: са свайго боку, яна зрабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб стварыць нашым алімпійцам усе ўмовы для ўдалага выступлення.

І паглядзіце, у выніковай табліцы мы суседнічаем з такімі развітымі краінамі, як Вялікабрытанія, Галандыя, Японія. Прабачце за параўнанне, але няхай дасягнуць такога рубяжа, як спорт, нашы медыцына ці машынабудаванне... Зусім нерэальная задача.

**— Давайце будзем лічыць, што ў Атланце мы выступілі дастойна. Успомнім другое месца нашых легкаатлетаў на мінулагоднім чэмпіянаце свету ў Швецыі, поспехі ў Барселоне. Усюды значыцца Беларусь. Аднак па словах некаторых удзельнікаў Алімпіяды, абсалютная большасць амерыканцаў у Атланце пры ўпамінанні назвы нашай рэспублікі рабілі круглыя вочы і былі згодны нават з тым, што Беларусь размешчана на афрыканскім кантыненце і суседнічае з Мазамбікам.**

— На жаль, спорт не ў сілах кожнаму, падкрэслю, амерыканцу, увесці ў вушы геаграфічнае становішча Беларусі. Не скажу, што ў жыхароў ЗША з геаграфіяй слаба. Амерыканцы, наколькі я паспеў упэўніцца, унікальныя людзі. Яны нічога, акрамя Злучаных Штатаў, не ведаюць. Гэта мае меркаванні. А наогул, Алімпійскія гульні ў Атланце прайшлі пад дэвізам «Амерыка найвышэй за ўсіх». На вялікі жаль.

**— Што азначае: спорт — гэта палітыка?**

— Так. І тут, як кажуць, нічога не папішаш. Мне падалося, што Алімпіяда ў Атланце была зроблена канкрэтна пад прэзідэнцкія выбары ў ЗША...

**— Уладзімір Мікалаевіч, пераходзячы ад высокіх выбарных матэрый да больш зямных, нельга не абысці тэму прусакоў, якую амерыканцы, відаць, спецыяльна падкінулі беларускім журналістам. З-за акіяна разпораз ішлі сігналы, што члены нашай дэлегацыі заселены ў такія пакоі, дзе бегаюць гэтыя вусатыя насякомыя і не даюць нікому спакою.**

— Не ведаю, магчыма, нехта і меў справу з прусакамі. Аднак пра дрэнныя ўмовы пражывання алімпійцаў-беларусаў сказаць не магу. Хай гэта пацвердзяць самі спартсмены. А наогул наша каманда жыла ў лепшых умовах, чым нават каманда Расіі. Беларусы суседнічалі з бразільцамі і іспанцамі і ніякіх пытанняў, нават на прусачынай глебе, не было.

**— Па прыездзе з Атланты пайшлі размовы, што многім нашым трэнерам, падначаленыя якіх нават не значыліся ў прызёрах, прама ў Атланце прапаноўваліся выгадныя кантракты на работу за мяжой. Нас, відаць, зноў чакаюць масавыя ад'езды лепшых настаўнікаў спорту. У такім разе як будзе спалучацца ваш аптымізм наконт вялікага спартыўнага патэнцыялу Беларусі і вакантныя трэнерскія пасады ў многіх відах спорту?**

— Безумоўна, працэс ад'езду трэнераў за мяжу заканамерны, і не толькі ў нас. Чалавек мае права выбару. Праўда, што датычыцца Беларусі, то ўжо ў бліжэйшы час многім трэнерам нацыянальных каманд мы зможам даць прыстойную зарплату. Пры гэтым некаторыя пасады застануцца вакантнымі. Магчыма, знойдуцца свежыя сілы, каб нармальна развіваць той ці іншы від спорту, а не быць папулістам у сваёй справе. На жаль, і такія кадры ў нас ёсць.

**— Маглі б некалькі слоў сказаць аб судзействе ў Атланце?**

— Не мне даваць ім ацэнку, аднак відавочна было, што арбітры падтрымлівалі дэвіз «Амерыка найвышэй за ўсіх». Хоць, дзеля справядлівасці, скажу, што Амерыка — вялікая дзяржава з вялікім мноствам выдатных спартсменаў.

**— Амерыканцы, здаецца, выступалі ва ўсіх 36 алімпійскіх дысцыплінах. Беларусы ж таксама ахапілі мноства відаў — аж 22. Улічваючы, што медальнымі для нас сталі толькі 5 дысцыплін, ці не замнога мы павезлі атлетаў за акіян? Некаторыя з іх аўтаматычна станавіліся турыстамі ці статыстамі.**

— Мы павезлі тых людзей, якія заваявалі потам і крывёю права на гэта — алімпійскія ліцэнзіі. У некаторых краінах за заваяванне ліцэнзіі ўжо плацяць спартсмену. Так, у многіх дысцыплінах, такіх, як грабны слалам, веласіпедны і ветразевы спорт, бадмінтон і ў некаторых іншых беларусы выглядалі навічкамі і ніякай канкурэнцыі сапернікам скласці не маглі. Але ж вы не забывайце, што поспехі на такіх спаборніцтвах, як Алімпіяда, прыходзяць толькі тады, калі ў каманды ёсць добрыя традыцыі. Інакш на Гульнях і рабіць няма чаго. А традыцыі могуць быць толькі тады, калі спартсмен удзельнічае ў спаборніцтвах, набіраецца вопыту і, у рэшце рэшт, дабіваецца поспеху.

**— Уладзімір Мікалаевіч, усе намаганні спартсменаў і трэнераў, нават самых таленавітых, могуць даць збой, калі яны не падмацаваны сучаснай фармакалогіяй і медыцынскай навукай. Мы па-ранейшаму будзем баяцца праверкі на допінг-кантроль, а найбольш сучасным сродкам аднаўлення сіл і пазбаўлення ад лішкаў вагі будзе заставацца бярозавы венік?**

— Наконт веніка дазвольце з вамі не пагадзіцца. Сёння беларускі спорт жыве не ў каменным веку і кожны спартсмен сам ведае, як яму пазбавіцца вагі ці найбольш прадуктыўна адпачыць пасля фінішу. Іншая справа, што медыцынская навука і фармакалогія ў нас не развіты. На гэта патрэбны вялікія грошы. Аднак, як кажуць, ад вырашэння ўказаных праблем нікуды не дзенешся. У свеце, напрыклад, ужо распрацаваны выпуск прадуктаў, якія даюць калорыі, але не ўплываюць на вагу чалавека.

Улічваючы той фактар, што вучэбна-трэніровачны працэс у нас амаль адрэгуляваны, асноўны ўпор зараз трэба рабіць на фармакалагічнае і спартыўна-медыцынскае аснашчэнне спорту, а таксама на псіхалагічнае выхаванне атлета. Сёння ж ужо дакладна вядома, што рэзервы чалавечага арганізма амаль неабмежаваныя. Самае галоўнае — умець іх раскрыць.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● ГЕНЕРАЛ ЛЕБЕДЗЬ ПРАВЁЎ ПЕРАМОВЫ З АСЛАНАМ МАСХАДАВЫМ**

Старшыня Савета бяспекі Расіі генерал Аляксандр Лебедзь правёў перамовы з кіраўніком штаба чачэнскіх сепаратыстаў у адной з вёсак, што на поўдні ад сталіцы Чачні Грознага. Масхадаў заклікаў да неадкладных і сур'ёзных захадаў па спыненню ўзброенага канфлікту паміж чачэнцамі і федэральнымі войскамі. Ён таксама паведаміў, што можна знайсці варыянт, які захавае расійскія інтарэсы ў гэтым рэгіёне. Камандуючы расійскімі войскамі ў Чачні паведаміў, што выкананне яго загаду на выкарыстанне самалётаў у барацьбе за Грозны пакуль адкладзена.

**● У ВЫНІКУ ВЫБУХУ Ў ЦЯГНІКУ ЗАГІНУЛІ ЧАТЫРЫ ЧАЛАВЕКІ**

Выбух у цягніку на поўдні Расіі выклікаў смерць чатырох пасажыраў. Як паведаміла агенцтва ІТАР-ТАСС, выбух адбыўся ў адным з пасажырскіх вагонаў у цягніку на адной са станцый недалёка ад Валгаграда. Нагадаем, што гэта ўжо другі па ліку выбух у гэтым поездзе. Першы раз выбуховае ўстройства спрацавана 25 ліпеня, калі пасажыры ўжо пакінулі вагоны.

**● АСОБНЫЯ АТРАДЫ БАЕВІКОЎ ПАКІДАЮЦЬ ГРОЗНЫ**

Расійскае кіраўніцтва прызнала, што чачэнскія паўстанцы кантралююць большую частку Грознага.

Пасля перамоў з Масхадавым Лебедзь ужо сустрэўся з прэзідэнтам Ельцыным і праінфарміраваў яго аб перамовах. Прапановы Лебедзя па ўрэгуляванню ў Чачні Ельцын адобрыў. Перамовы будуць працягнуты ў Махачкале. Тым часам крыніца ў штабе расійскай групоўкі паведаміла, што з 6 жніўня баевікі знішчылі 3 і пашкодзілі 5 верталётаў федэральных сіл. Крыніца таксама паведаміла, што асобныя атрады баевікоў пачалі пакідаць чачэнскую сталіцу. «Чачэн-прэс» таксама паведамляе некалькі цікавых, але не пацверджаных лічбаў: за час баёў расійскі бок страціў 1200 чалавек забітымі, а чачэнскі — 27.

**● АПАЗІЦЫЯ ПАРУШЫЛА ПАГАДНЕННЕ**

Адзін вайсковец загінуў, трынаццаць атрымалі раненні ў выніку сутыкнення ўрадавых войскаў Таджыкістана з сіламі апазіцыі. Як паведаміла агенцтва ІТАР-ТАСС, горад Тавільдара абстраляны з мінамётаў. Ёсць ахвяры сярод мірнага насельніцтва. Міністэрства абароны рэспублікі абвінавачвае ісламісцкую апазіцыю ў парушэнні пагаднення ў Ашгабадзе. У заяве Міністэрства абароны гаворыцца, што ўрадавыя войскі пакідаюць за сабой права зрабіць адэкватныя захады.

**● КАРОЛЬ СТАЎ ТОЛЬКІ СЁМЫМ**

Кароль Іспаніі Хуан Карлас І заняў усяго толькі сёмае месца ў міжнароднай ветразевай рэгаце, якая праводзілася ў адной з бухтаў Міжземнамор'я. У мінулым 58-гадовы іспанскі манарх чатыры разы станавіўся пераможцам. На гэты раз кубак заваяваў экіпаж нямецкага ветразніка «Пінта».

**● СЛЯПАЯ, ЯКАЯ БАЧЫЛА БОЛЬШ ЗА ВІДУШЧЫХ**

У адной з бальніц Сафіі ў нядзелю вечарам пасля цяжкай хваробы ў 85-гадовым узросце памёрла вядомая прадказальніца Ванга.

Так распарадзіўся лёс, што гэта сляпая жанчына бачыла больш за ўсіх відушчых. Менавіта яна ў свой час прадказала ўвод расійскіх войскаў у Чэхаславакію і Афганістан, лёсы вялікіх людзей свету. Да яе звярталіся палітыкі і кіназоркі, вайскоўцы і праваахоўнікі, кіраўнікі і іх падначаленыя. Ванга не адмаўляла нікому.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё 101,2» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ФУТБОЛ. КУБАК КУБКАЎ

# Дэбют аказаўся нічыйным. Аднак з развязкай прыйдзецца пачакаць

**МІНУЛЫ ЧАЦВЕР для Мазыра ў футбольным календары стаяў асобна. У гэты дзень на мясцовым стадыёне «Юнацтва» лідэры сёлетняга чэмпіянату, футбалісты МВКЦ, дэбютавалі ў кваліфікацыйным турніры розыгрышу Кубка ўладальнікаў кубкаў. Процістаяў мазыранам ісландскі клуб «Рэйк'явік».**

«Рэйк'явік» за амаль стогадовую гісторыю (клуб заснаваны ў 1899 годзе), з'яўляючыся 20-разовым чэмпіёнам Ісландыі і 9-кратным уладальнікам Кубка краіны, поспехам у міжнародных еўратурнірах пахваліцца не можа. Вікінгі правялі ў рамках Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў, Кубка УЕФА і Кубка кубкаў 22 матчы і выйгралі ўсяго толькі адну гульню — летась у люксембургскага «Грэвенмахера» (2:0). Агульны баланс забітых і прапушчаных мячоў склаў 19—86.

Праўда, ехалі ў Мазыр астравіцяне з надзеяй змяніць гэты баланс. Прызямліўшыся ў аэрапорце «Гомель», ісландцы адправіліся ў прафілакторый «Сосны», гаспадар якога — Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Добрыя нумары, цудоўная прырода плюс свая кухня (харчаванне, ваду і шэф-повара госці прывезлі з сабой) спрыялі добраму настрою ісландцаў. А турыстычна-журналісцкая група астравіцян, якая складалася прыкладна з 20 чалавек, напярэдадні гульні змагла пагуляць па горадзе і зрабіць неабходныя пакупкі. Найбольш адметная з іх была, відаць, зімовая шапка-вушанка. Дзіўна, але яна спадабалася гасцям і нават час знаходзілася на галаве ў аднаго турыста.

Гульня пачалася пад дыктоўку гасцей. Ісландцы напачатку мелі некалькі нядрэнных шанцаў паразіць вароты Свіркова, аднак зрабіць гэта не ўдалося. Пад канец першага тайма выдатны шанц забіць гол упусціў лепшы бамбардзір МВКЦ Сяргей Яромка. Яго ўдар прыняла на сябе перакладзіна.

У перапынку сустрэчы ісландскі корпус падтрымкі ў новым прэс-цэнтры стадыёна гучна абмяркоўваў план гульні сваёй каманды на заключны адрэзак часу.

Праўда, літаральна праз 10 хвілін пасля ўзнаўлення гульні мову гасцям як адняло. Аб гэтым паклапаціўся ўсё той жа Яромка. Яго пушачна-навясны ўдар метраў з 22 аказаўся прыцэльным — 1:0.

У гэты час мазыранам спадарожнічала ўдача і таму яны змаглі замацаваць перавагу: вызначыўся Скарабагацька.

Да фінальнага свістка заставалася хвілін дзесяць. Гаспадары іх выстаялі, аднак бельгійскі арбітр Аман Аньён, відаць, вырашыў убачыць іншую развязку сустрэчы і таму на хранометр не звяртаў асаблівай увагі. І яна, хоць таго і не хацелася балельшчыкам, наступіла. Дэбютанты еўракубкаў чамусьці забылі, што гуляць трэба да апошняй секунды, і збіліся на абарону, а яна якраз была не надта надзейнай. Асабліва схібіў варатар мазырскіх варот Свіркоў. За некалькі хвілін два зусім незразумелыя мячы — і ісландцы трыумфуюць. А іх «фаны» з радасці ледзь не разбілі шыбу ў прэс-цэнтры. Праўда, свісток суддзі астудзіў запал гасцей і прымусіў задумацца мазыран, як гэта яны ўмудрыліся выпусціць з рук перамогу.

Прааналізаваць гульню і зрабіць высновы ў падначаленых Анатоля Юрэвіча яшчэ будзе час: Матч у адказ пройдзе 21 жніўня ў Рэйк'явіку.

Безумоўна, шанцы ў каманды яшчэ ёсць, хоць на пасляматчавай прэс-канферэнцыі настаўнік гасцей югаслаў Лука Косціч не надта абмяжоўваў магчымасці вікінгаў, зазначыўшы, што яго каманда мацнейшая і дома павінна выйграць.

Начальнік каманды МВКЦ Леанід Гарай не абяцаў супергульні на востраве Гейзераў, аднак падкрэсліў, што мазыране таксама не супраць выйгрышу.

Чакаць засталося нядоўга. Ужо 19 жніўня чартэрным авіярэйсам з Гомеля МВКЦ адбывае ў Рэйк'явік.

*Мінск — Мазыр.* **Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**Вось вынікі астатніх матчаў адборачнага этапа 37-га розыгрышу Кубка ўладальнікаў кубкаў.**

Карабах (Азербайджан, Агдам) — МюПа-47 (Фінляндыя, Мюлюкоскі) — 0:1
Котайк (Арменія, Абавян) — АЭК (Кіпр, Ларнака) — 1:0
Дынама (Грузія, Батумі) — Хаўнар (Фарэры) — 6:0
Канструторул (Малдавія, Кішынёў) — Хапаэль (Ізраіль, Іроні-Рышон) — 1:0
Універсітэт (Латвія, Рыга) — Вадуц (Ліхтэнштэйн) — 1:1
Садам (Эстонія, Талін) — Ніва (Украіна, Вініца) — 2:1
Сьён (Швейцарыя) — Карэда (Літва, Шаўляй) — 4:2
Хемлан (Славакія, Гуменне) — Фламуртары (Албанія, Влера) — 1:0
Алімпія (Славенія, Любляна) — Леўскі (Балгарыя, Сафія) — 1:0
Кішпешт-Ганвед (Венгрыя, Будапешт) — Слога-Югамагнат (Македонія) — 1:0
Глентаран (Паўночная Ірландыя, Белфаст) — Спарта (Чэхія, Прага) — 1:3
Лансантфрэйд (Уэльс, Рэксхэм) — Рух (Польшча, Хожуў) — 1:1
Шэлбурн (Ірландыя) — Бран (Нарвегія) — 1:3
Црвена звезда (Югаславія, Белград) — Хартс (Шатландыя) — 0:0
Ла-Валета (Мальта) — Глорыя (Румынія, Бістрыта) — 1:2
Вартэс (Харватыя, Вараждзін) — ЮС-Люксембург — 2:1

**Матчы ў адказ пройдуць 22 жніўня.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Атрымаўшы сем гадоў за ўзброенае абрабаванне, англічанін Марк Рыч вырашыў зрабіць добрую справу калі не для ўсяго грамадства, дык хаця б для той яго часткі, што адгароджана ад свету турэмнымі кратамі. Ён склаў і выдаў «Даведнік зняволенага» на 430 старонках. У ім аўтар вельмі падрабязна апісвае вартасці і недахопы ўсіх папраўчых установ Вялікабрытаніі. Каб сабраць неабходныя матэрыялы, Рыч разаслаў анкеты зняволеным усіх турмаў і іх ахоўнікам. На падставе атрыманых адказаў і быў напісаны бестселер для зэкаў. Цяпер тым, каго чакае турма, не трэба даведвацца ў «калег», дзе лепш кормяць і ці лютуе ахова, а дзе рэжым больш лаяльны.

***ІМА-ПРЭС.***

*П'янкам з пеўнямі замест мужчынскай кампаніі аддае перавагу Мішэль Марзеціно, 75-гадовы жыхар невялікага сяла на поўдні Італіі. Пасля смерці жонкі ён ні з кім не падтрымлівае сувязей, а толькі разводзіць хатніх птушак. Асаблівай любоўю ўдаўца карыстаюцца пяць пеўняў, якіх гаспадар не толькі пускае ў хату, але і частуе віном. Пасля «выпіўкі» пеўні пачынаюць моцна кукарэкаць, чым вельмі дапякаюць астатнім жыхарам сяла. Не вытрымаўшы гэтых «канцэртаў», яны вырашылі аднойчы ўначы раз і назаўсёды пакончыць з імі. Аднак стары быў напагатове і, узброіўшыся стрэльбай, разагнаў нязваных гасцей.*

***ЭКСТРА-ПРЭС.***

Калі на рацэ пачуліся крыкі аб дапамозе, з адной з бліжэйшых сядзіб на галасы кінуўся вялізны сабака. Ён скокнуў у ваду і, даплыўшы да месца, дзе танула васьмігадовая дзяўчынка, выцягнуў яе на бераг. Затым чатырохногі выратавальнік дапамог выбрацца з вады і маці малой, якая паплыла на дапамогу дачцэ і сама пачала захлынацца. Мянушка выратавальніка — Лада, а адбылося гэта ўсё непадалёку ад Белгарада.

***«Труд».***

777

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

## АНАНАСЫ З ПЕСНЯЙ СМАЧНЕЙШЫЯ

Усё пачалося яшчэ ў канцы 40-х, калі псіхіятр Гурэвіч зусім нечакана натрапіў на феномен: стан псіхічна хворых значна паляпшаўся, калі яны знаходзіліся побач з некаторымі раслінамі. Асабліва жыватворным было ўздзеянне зялёнай цыбулі. Побач з яе стрэлкамі нават буйныя шызафрэнікі пачыналі сябе паводзіць зусім разумна. Не ўсе, зразумела, але значны працэнт хворых так ці інакш мяняўся ў лепшы бок.

Амерыканцы паведамілі навукова ўстаноўлены факт: у раслінах маецца такая ж электрычная сістэма сігналізацыі, як у жывёл ці ў чалавека.

Зрэшты, устанавіць гэта можна было даўно, яшчэ ў 50-х гадах, калі адбылася адна паўфантастычная гісторыя. Тады ў Амерыцы існавалі дзве буйныя кампаніі па вырошчванню і збыту ананасаў. Адна мела плантацыі на Гавайскіх астравах, другая — на Антыльскіх. І клімат, і глеба на астравах падобныя, ананасы таксама аднаго гатунку. Але чамусьці антыльскія ананасы былі і больш буйнымі і больш смачнымі. А таму і купляліся куды ахвотней.

Зразумела, гэта непакоіла гавайскую кампанію. І яна прымала меры. Аж да таго, што на Гаваі завозілі антыльскія саджанцы. Толькі гэта ні да чога не прывяло. Завезеныя саджанцы давалі плады, якія нічым не адрозніваліся ад мясцовых. Тады паклікалі на дапамогу навуку. Цудоўна, што загадку адгадаў не хто іншы, як псіхіятр. Джон Мэйс-малодшы звярнуў вагу на нюанс, міма якога прайшлі б 99 са 100 даследчыкаў. На Гаваях ананасы вырошчвалі тутэйшыя жыхары, а на Антылах — прывезеныя з Афрыкі негры. Гавайцы працуюць моўчкі, для іх праца — гэта праца. А бестурботныя негры з усяго ўмеюць рабіць забаву. І ў час працы прытанцоўваюць і спяваюць. Відаць, толькі псіхіятру магла прыйсці ў галаву такая недарэчная ідэя: а ці не ў песнях справа?

З гэтай ідэяй ён і звярнуўся да кіраўніцтва кампаніі. Магчыма, ва ўсім свеце псіхіятраў лічаць трошкі таго... Але губляць не было чаго, і на гавайскіх плантацыях таксама з'явіліся спяваючыя негры. А вынік — хутка тутэйшыя ананасы нічым не адрозніваліся ад антыльскіх.

Для кіраўніцтва кампаніі праца была завершана. А для доктара Мейса яна толькі пачыналася. Ён паставіў эксперымент, які пасля прадубліравалі дзесяткі лабараторый свету. У спецыяльна абсталяванай аранжарэі ён сабраў мноства раслін і стаў іграць ім розныя мелодыі — ад сучасных шалёных джазаў да сярэднявечных пастаралей. Больш за 30 тысяч доследаў спатрэбілася ўнікліваму даследчыку, каб прыйсці да высновы: расліны ўспрымаюць музыку і рэагуюць на яе. Больш за тое, многія з іх, асабліва кветкі, валодаюць пэўнымі музыкальнымі прыхільнасцямі. Большасці падабаюцца спакойныя меладычныя п'есы, але вось цыкламенам падавай джаз. Мімозы і гіяцынты аддаюць перавагу пяшчотнай музыцы Чайкоўскага, а прымулы, флёксы і табака — магутным операм Вагнера.

# РАСЛІНЫ — БРАТЫ ПА РОЗУМУ?

**У казках народаў усяго свету часта дзейнічаюць розныя жывёлы. Яны думаюць, размаўляюць адзін з адным, маюць зносіны з людзьмі. Адным словам, паводзяць сябе як разумныя істоты.**

**Але ні ў адной казцы не гаворыцца пра расліны, якія думаюць, адчуваюць ці размаўляюць. Здаўна лічыцца, што паміж чалавекам, жывёлай і раслінай ляжыць непраходная прорва. Навуковыя даследаванні прымусілі ў гэтым усумніцца.**

## КВЕТКА АПАЗНАЕ ЗАБОЙЦУ

Хоць вынікі эксперыментаў доктара Мейса былі апублікаваны, рэзанансу ў навуцы яны не атрымалі: іх проста не ўспрынялі ўсур'ёз.

Усплыла гэта загадка ў зусім нечаканым месцы — у лабараторыі прафесара Кліва Бакстэра, вынаходніка «дэтэктара хлусні», які афіцыйна завецца паліграфам. Бакстэр аднойчы дадумаўся далучыць датчык да лісця хатняй расліны — філадэндрона. Цяпер трэба было неяк прымусіць расліну адчуць «эмацыянальны стрэс» — выклікаць прыліў сокаў да лісця, каб зафіксаваць змены гальванічнай рэакцыі. На думку даследчыка, яна павінна быць невялікай, і толькі звышадчувальны датчык мог яе зафіксаваць. Вучоны апусціў адзін лісток у кубак з гарачай кавай — ніякай рэакцыі. «А ці не паспрабаваць агонь?» — падумаў ён, дастаючы запальнічку. І крывая самапісца адразу ж кінулася ўверх.

Сказаць, што Кліў Бакстэр быў ашаломлены — значыць нічога не сказаць. Атрымлівалася, што расліна прачытала яго думкі. А значыць, сама магла думаць. Публікаваць такі вынік без праверкі было проста страшна. І ён паставіў кантрольны эксперымент. Аўтаматычны механізм, злучаны з датчыкам выпадковых лічбаў, у адвольна абраны момант часу перакульваў кубак з жывой крыветкай у кіпень. Трэба меркаваць, жывёле было вельмі балюча. А побач стаяў усё той жа філадэндрон з наклеенымі на лісці датчыкамі. І кожны раз пры перакульванні кубка самапісец фіксіраваў эмацыянальны «пік» — кветка суперажывала жывёле, якая гінула.

Але і цяпер Бакстэр не адважыўся на публікацыю. І правёў трэці эксперымент — змадэліраваў злачынства. Шасці сваім лабарантам ён даў заданне: яны павінны былі па чарзе заходзіць у пакой, дзе стаялі дзве кветкі, і хтосьці з іх павінен адну кветку зламаць. Хто менавіта — вырашалі яны самі, Бакстэр гэтага не ведаў. Калі ён увайшоў у пакой, кветка ўжо была зламаная. Хто вінаваты? Бакстэр стаў зноў выклікаць лабарантаў у пакой: адзін... другі... трэці... Калі ўвайшоў чацвёрты ўдзельнік эксперымента, датчык на ацалелым філадэндроне паказаў эмацыянальны ўсплёск: кветка апазнала «забойцу». Толькі пасля гэтага Кліў Бакстэр асмеліўся на публікацыю, але з вельмі асцярожнымі высновамі.

## МЫ АДНЫХ ГЕНАЎ — ТЫ І Я

Артыкул Бакстэра нарабіў шмат шуму ў навуковым свеце. Яго даследаванні кінуліся ўзнаўляць многія, у тым ліку і маскоўскія псіхолагі. У іх ліку быў і прафесар Веніямін Пушкін, супрацоўнік Інстытута агульнай і педагагічнай псіхалогіі. Больш як 200 даследаванняў Веніяміна Пушкіна неабвержна сведчылі: у адказ на змяненні эмацыянальнага стану чалавека мяняўся і электрычны патэнцыял расліны. І ў рэшце рэшт прафесар вылучыў гіпотэзу, якая часткова тлумачыла і эксперыменты Гурэвіча, і назіранні Мэйса. «Нашы даследаванні, — пісаў ён, — сведчаць аб адзінстве інфармацыйных працэсаў, якія адбываюцца ў клетках раслін і нервовай сістэме чалавека. Яны ж таксама складаюцца з клетак, хоць і іншага тыпу. Гэта адзінства — спадчына тых часоў, калі на Зямлі з'явілася першая малекула ДНК — носьбіт жыцця і агульны продак раслін і чалавека. Было б дзіўна, калі б гэтага адзінства не існавала...»

Дзе цэнтр у чалавека і жывёл, мы ведаем — мозг. А дзе ён у раслін, якія мозга быццам бы не маюць? ...У шыйцы каранёў, якія валодаюць здольнасцю сціскацца і расціскацца, як сардэчная мышца. Хто ведае, ці не гэта мозг раслін? У рэшце рэшт, павінен жа ў іх быць нейкі орган, які кіруе ўсёй жыццядзейнасцю.

Доследы Бакстэра, Пушкіна, іншых вучоных сведчылі: расліны, відаць, абменьваюцца сігналамі. У іх існуе свая мова, падобная на прымітыўную мову насякомых. Прафесар Ціміразеўкі Івар Гунар знайшоў і даказаў, што адна расліна, мяняючы электрычны патэнцыял у сваім лісці, пасылае другой паведамленні аб небяспецы. Гэта падобна на радыётэлефон. Зрэшты, леснікі даўно гэта прыкмецілі, хоць наўрад ці зрабілі правільныя высновы: калі сячэш дрэва, лісце іншых дрэваў гэтай жа пароды, якія растуць побач, пачынае трапятаць. І Гунар прыйшоў да высновы: калі не лічыць прыкаванасці раслін да свайго месца, ніякай розніцы паміж імі і жывёламі няма.

Пасля былі знойдзены і каналы, па якіх ідуць сігналы трывогі. Імі з'яўляюцца своеасаблівыя шчыліны ў мембранах раслінных клетак. Называюцца яны пламадэзматы. Але ж любы рух электрычнага зараду выклікае ўзнікненне электрамагнітнага поля. Ёсць гіпотэза, што сігналізацыя з дапамогай іонных зарадаў служыць двоякай мэце. З аднаго боку, яна прымушае іншае лісце гэтай расліны ці нават іншых раслін выпрацоўваць інгібітары, якія запавольваюць страваванне ў вусеняў. А з другога — магчыма, гэтыя сігналы заклікаюць на дапамогу прыродных ворагаў вусеняў, напрыклад птушак, у жыцці якіх, як выяўлена, электрамагнітныя палі адыгрываюць пэўную ролю.

Бясспрэчна адно: адкрыццё «розуму» ў раслін абяцае вялікія перспектывы. Хаця б дапаможа адгадаць самую пякучую тайну: як узнікла жыццё на Зямлі? Расліны былі першымі, хто атабарыўся на нашай планеце. Дык ці не захавала іх «генная памяць» успамінаў аб тым часе? І як пасля з'явіліся жывёлы і чалавек? Прырода зрабіла нас усіх з аднаго матэрыялу, і развіваліся мы па адных законах.

**Альберт ВАЛЯНЦІНАЎ.**

*«Российская газета».*

*36,6°*

# АЛЕРГІЯ НАСТУПАЕ. АЛЕ ЗМАГАЦЦА З ЁЮ МОЖНА. І НЕ ТОЛЬКІ З ДАПАМОГАЙ КЛАРЫЦІНУ

***Нават адносна здаровы чалавек, далёкі ад медыцыны, ведае, як суняць боль, як збіць тэмпературу і гэтак далей. А вось аб алергіі мала ведаюць нават тыя, хто пакутуе ад яе сімптомаў. Многія не ўспрымаюць гэту хваробу сур'ёзна. Алергія не падаецца ім небяспечнай і лічыцца даволі рэдкай.***

***Не хочацца расчароўваць чытачоў, але ж прыйдзецца, паколькі ўсе падобныя разважанні былі абвергнуты ў размове з галоўным алерголагам беларускай сталіцы Наталляй ДУДАРАВАЙ.***

**— Наталля Іванаўна, што ўяўляе алергія як захворванне з медыцынскага пункту гледжання?**

— Алергія — павышаная адчувальнасць да якіх-небудзь рэчываў. Умоўна такія рэчывы — алергены ўрачамі дзеляцца на некалькі груп: харчовыя, пылковыя, бытавыя алергены, лекавыя прэпараты, поўсць розных жывёл. Існуюць і іншыя, менш распаўсюджаныя віды алергіі.

**— Растлумачце, калі ласка, што ўяўляе сабой бытавы алерген?**

— Хатні пыл, пер'е падушкі, бібліятэчны пыл і гэтак далей. Але не варта адносіць да алергенаў бытавыя аэразолі. Яны з'яўляюцца ўсяго толькі раздражняльнікамі.

**— Якія ж сімптомы ў алергіі?**

— Усялякія, у залежнасці ад алергена. Высыпанні на скуры ў выпадку алергіі ад харчовых і лекавых рэчываў, слязлівыя вочы, закладзены нос, чханне, цяжкасць дыхання, прыступы ўдушша — гэта найбольш распаўсюджаныя алергічныя рэакцыі, выкліканыя пылком, поўсцю, пылам.

**— Ці можа алергія прывесці да смерці хворага?**

— На жаль, такое здараецца. І самае небяспечнае ў гэтым плане — алергія на лекавыя прэпараты. Пры іншых алергіях, калі хворы своечасова звяртаецца да ўрача, не бывае лятальных зыходаў. Небяспечныя для жыцця чалавека і такія праяўленні алергіі, як ацёкі Квінке, што можа прывесці да ўдушша. У рэшце рэшт, кожны ведае тэлефон 03. Бескантрольнае карыстанне якім-небудзь інгалятарам можа выклікаць зваротную рэакцыю. У гэтым выпадку, магчыма, і «хуткая дапамога» вас не выратуе.

**— Ці бываюць сезонныя ўспышкі алергіі?**

— Безумоўна. У многіх хворых ёсць «небяспечныя» сезоны, іх наяўнасць дапамагае высветліць прычыну алергіі. Напрыклад, у канцы красавіка-маі алергія на пылок дрэў найбольш магчымая. Чэрвень-ліпень — сезон алергічных рэакцый на пылок пустазелля і злакавых траў, у жніўні ўзнікаюць праблемы з-за палыну.

**— А праславутый пух таполі?**

— Алергію можа выклікаць пылок таполі, што здараецца ў траўні, пух жа ляціць у чэрвені. Менавіта тады квітнеюць злакі, чый пылок выклікае алергію. Але не пух.

**— Ці ёсць узроставыя асаблівасці ўзнікнення і праяўлення хваробы?**

— У дзяцей дыятэз узнікае па тым жа механізме, што і алергія. Дыятэз можа прайсці з узростам, але дзеці, якія пакутуюць ад яго, з гадамі будуць з большай верагоднасцю схільныя да алергіі. Радзей пакутуюць ад гэтага захворвання старыя, часцей — маладыя, здаровыя людзі, але рэзкіх узроставых абмежаванняў няма.

**— Наколькі, дарэчы, распаўсюджана гэта захворванне?**

— Цяжка прывесці якія-небудзь лічбы: часта хворыя на алергію прымаюць яе за прастуду (падобныя сімптомы) і звяртаюцца да тэрапеўта ці наогул не ідуць да ўрача. Па прагнозах, да 2000 года алергазахворванні выйдуць на першае месца ў агульнай структуры захворванняў, абагнаўшы прастуды.

**— У чым жа заключаецца прафілактыка і лячэнне хваробы?**

— Найперш — у максімальна магчымым абмежаванні кантакту з алергенамі. Выключыць кантакт няцяжка, калі гаворка ідзе пра харчовыя алергены, лекавыя прэпараты, поўсць жывёл. Пазбегнуць кантакту з пылковымі ці бытавымі алергенамі немагчыма. Тады ўжо без медыцынскай дапамогі не абысціся. Але можна ўплыў алергена абмежаваць. Калі гэта алергія на пылок — не варта ездзіць за горад, на сельскагаспадарчыя работы. У выпадку алергіі на бытавы пыл неабходна абмежаваць удзел хворага ў прыбіранні кватэры, у пераездах і перастаноўках мэблі. Часцей праветрываць пакоі. Распрацаваны цэлыя памяткі для хворых на алергію — аб спосабах прафілактыкі.

У лячэнні важна, каб чалавек накіраваўся да спецыяліста. У перыяд узмацнення алергічных рэакцый прызначаюцца антыгістамінныя прэпараты, якія дазваляюць аблегчыць праяўленні, а часам выкарыстоўваем і гарманальныя, якія даюць моцны проціалергічны эфект. У перыяд паміж прыступамі хваробы рэкамендуецца правядзенне проб для ўдакладнення прычыны алергіі і лячэння спецыфічнымі метадамі (у арганізм уводзіцца алерген, паступова павялічваецца доза — прынцып прышчэплівання). Гэты метад дае нядрэнны эфект прыблізна на год, але такое лячэнне працяглае, карпатлівае.

**— Ці існуюць якія-небудзь так званыя народныя спосабы лячэння алергіі, раней жа з ёй спраўляліся?**

— Раней пра гэту хваробу амаль нічога не ведалі. Хворыя часта спрабуюць знайсці народныя сродкі, але іх няма.

Можна гаварыць аб дапаможных метадах, такіх, як іголкарэфлексатэрапія, унутрысасудзістае лазернае апраменьванне крыві для некаторых груп хворых.

**— Ці можна самастойна лячыць алергію?**

— Гэта залежыць ад яе праяўленняў. Без медыкаў адолець прыступы ўдушша цяжка. Акрамя таго, чалавек часта не можа правільна ўстанавіць прычыну экзэмы, свербу, скурных высыпанняў. З такімі ж сімптомамі працякае цэлы рад розных іншых захворванняў. Да лячэння можна прыступаць толькі пасля ўстанаўлення дакладнай прычыны недамагання.

**— Якія ж лекавыя прэпараты прымяняюцца пры лячэнні алергіі, дакладней, пры зняцці яе сімптомаў?**

— Цэлая група антыгістамінных прэпаратаў, якія здымаюць праяўленні пры любым відзе алергіі. Адносна дарагі сучасны прэпарат — кларыцін. Ён мае менш пабочных эфектаў, чым многія лекі. Зараз ён шырока рэкламуецца ў горадзе.

Многа іншых вядомых прэпаратаў: гісманал, тэрфена, тавегіл, супрасцін, фенкарол, дымедрол, піпалфен і інш. Адна таблетка здымае сімптомы ў сярэднім на 12—24 гадзіны.

**— Хаця ў сталіцы, відаць, не ўзнікае цяжкасцей з забеспячэннем лекавымі прэпаратамі?**

— У аптэках Мінска зараз можна знайсці амаль усё — калі не ў дзяржаўных, то ў прыватных. Цяжэй з лекамі ў стацыянарах, але пакуль што ўдаецца забяспечыць хворых прэпаратамі, не звяртаючыся да дапамогі і кашалькоў іх сваякоў.

**— Удзячная вам за своечасовую размову. На дварэ — жнівень — сезон на некаторыя віды алергіі.**

**Гутарыла Вольга СТАЎРОЎСКАЯ.**

**P. S.** ***У аптэках сапраўды ёсць многа антыгістамінных прэпаратаў. Так, дзесяць таблетак кларыціну ў адной з дзяржаўных аптэк каштуе 81.600 рублёў. Там жа можна набыць дваццаць таблетак тэрфены за 22.600 рублёў, тавегілу — за 18.400, піпалфену — за 12.200.***

***У прыватнай аптэцы не меншы выбар падобных лекаў і амаль такія ж цэны: гісмакол (дзесяць таблетак) — 51.300 рублёў, супрасцін (дваццаць таблетак) — 14.400, піпалфен — 12.800, тавегіл — 32.800, фенкарол — 20.200 і дымедрол (50 таблетак) — 7.200 рублёў.***

## НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА

### ...ад галаўнога болю

**Нярэдка могуць дапамагчы самыя простыя спосабы.**

- Можна з'есці чаго-небудзь салёнага (у невялікай колькасці): напрыклад, падсоленую скібачку хлеба. У народнай медыцыне для зняцця галаўнога болю часта прымяняецца сок звычайнай каліны.
- Лісты белакачаннай капусты прыкладваюцца да галавы, каб зняць боль.
- Сок свежай бульбы рэкамендуецца піць па 1/4 шклянкі пры сістэматычных болях.

### ...ад боляў у печані

Змяшаць паўшклянкі капуснага расолу з такім жа аб'ёмам соку свежых памідораў і піць тры разы на дзень пасля прыёму ежы. Курс лячэння доўжыцца некалькі месяцаў.

СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ

## Людміла ЗЫКІНА: «МЯНЕ НЕ ТРЭБА РУХАЦЬ. Я РУХАЮСЯ САМА»

***СЁННЯ шмат хто гаворыць прыгожыя словы ў адрас народа. Не шкадуюць кампліментаў, слязлівых спачуванняў, гучных абяцанняў дапамагчы яму маральна ў гэты складаны час. Яна таксама па-свойму хвалюецца за народ: спявае для яго. Вельмі народная спявачка былога СССР і самая саноўная ўдзельніца ўрадавых канцэртаў зараз не жыве надзеяй зноў перавярнуць свет, хоць злая хвароба — настальгія — час ад часу нагадвае аб сабе. Усё тым жа болем — за народ.***

**— Людміла Георгіеўна, ці змяніліся за апошнія гады Вашы адносіны да ўласнай творчасці і ўвогуле да залішне ідэалагізаванай былой савецкай эстрады?**

— Я не лічу дрэнным, калі артыст са сцэны выказвае пэўны светапогляд. Зараз мы бачым пярэсты натоўп маладой эстрады і не заўсёды можам адрозніць аднаго выканаўцу ад другога. Што яны нясуць? Навошта яны на сцэне? Я думаю, яны і самі не ведаюць. Але прынамсі пра слухача яны думаюць менш за ўсё. Калі пачынала я, усё было наадварот. Ты выходзіў на сцэну, на вялікую аўдыторыю і выносіў не проста нейкія песні. Трэба было думаць пра тое, якую карысць яны прынясуць, як і для каго прагучаць. Нашы песні былі разлічаны на тое, каб несці нашу ідэалогію, ідэалогію нашага народа, ідэалогію нашай культуры. Вось пра гэта, на мой погляд, маладым сёння трэба думаць як мага болей.

**— Вы былі ў ліку тых, хто падпісаў вядомае «Слова да народа».**

— Я яго не падпісвала. А было ўсё так. Мне патэлефанавалі, прачыталі ўсё гэта і прапанавалі паставіць свой подпіс. Я сказала, што на слых не ўсё ўспрымаю, у мяне зрокавая памяць добрая. Папрасіла прынесці і паказаць гэтую паперу. Ніхто не прыйшоў, але калі гэта з'явілася ў газеце, сярод іншых быў і мой подпіс.

**— Тым не менш, быў час, калі ўсе пачалі адмаўляцца ад сваіх партыйных поглядаў. Вас гэта закранула?**

— А я ніколі не была членам партыі.

**— Няўжо такое магло здарыцца з паўпрэдам савецкай песні?**

— Калі я аддзялілася ад хору імя Пятніцкага і пачала спяваць асобна, то працавала салісткай на радыё. Там напісала сваю першую заяву ў партыю. І калі прыйшоў час разгляду маёй заявы, я якраз вырашыла разысціся з мужам. Камісія, якая слухала справу, мне адмовіла. Сказалі, што я маральна няўстойлівы чалавек. Я не стала спрачацца, напэўна, яны лепей ведаюць, з кім мне жыць. Але свой лёс я прывыкла выбіраць сама. І пайшла. Потым, праз пэўны час, калі я змяніла месца працы, ізноў напісала заяву ў партыю. Мне сказалі, што трэба пачакаць, вытрымаць кандыдацкі тэрмін. Так прайшоў год. Потым і другі праляцеў. Усё ж такі пра мяне ўспомнілі. Выклікалі і папрасілі напісаць новую заяву. Я сказала: «Што?..» Так усё і скончылася.

**— А як часта Вам даводзілася выбіраць свой лёс?**

— Чатыры разы я была замужам. Бывае ў адносінах такі перыяд, калі разумееш, што чалавек, які побач, становіцца быццам бы чужым. Я гавару пра адносіны паміж жанчынай і мужчынам. Але няма ніякіх перашкод, каб захаваць потым добрыя сяброўскія адносіны. Мае былыя мужы ўсе добрыя людзі, я з імі і зараз па-добраму сустракаюся.

**— Такая жанчына, як Вы, павінна карыстацца поспехам у мужчын...**

— Я і зараз карыстаюся. Але замуж болей не хачу.

**— Вы адчуваеце сябе шчаслівай жанчынай?**

— Так. Хоць мне не давялося стаць маці. Сваіх дзяцей Бог не даў, але мне давялося выхоўваць пляменнікаў, дзяцей брата. Складаная гэта справа. Складаныя адносіны з імі зараз. Але маё шчасце яшчэ і ў тым, што магу сустракацца з людзьмі праз мастацтва. Усё самае галоўнае для мяне — у працы. Потым — сям'я. Потым усё астатняе.



**— «Астатняе» — гэта Вашы заняткі ў вольны час?**

— Так. Толькі не трэба думаць, што ў маім жыцці толькі вольны час. Я па-ранейшаму шмат выступаю з канцэртамі, раблю і новыя запісы. А час, які я магу патраціць для душы, выдаецца за кошт таго, што я мала сплю. У суткі сплю па тры-чатыры гадзіны. Потым прачынаюся. Можна так ляжаць з адкрытымі вачыма гадзіны дзве, але мяне гэта раздражняе. Тады я ўстаю. Магу пайсці на кухню прыгатаваць абед.

**— У такіх выпадках што Вы звычайна гатуеце?**

— Усё залежыць ад таго, каго буду карміць. Я люблю гатаваць і раблю гэта вельмі добра. Увогуле, аддаю перавагу дамашняму харчаванню, а не рэстараннаму.

**— А самі што любіце?**

— Сама я ўсё люблю. Выпякаць люблю. Многа разоў сябе пераконвала, што трэба сачыць за камплекцыяй. Нічога не атрымліваецца.

**— Вы адзіная спявачка, якая за доўгія гады не змяніла свой імідж. Колькі часу звычайна адымае ваша прычоска?**

— Мне ўвесь час задаюць пытанне, ці важу я за сабой цырульніка. Я скажу, што ніхто не зможа прычасаць мяне лепей, чым я раблю гэта сама. Я доўга шукала свой стыль, твар у мяне круглы, а трэба было знайсці прычоску, якая б пасавала і толькі ў адной мяне была. Потым стыль «пад Зыкіну» пайшоў у народ. І мне вельмі прыемна, калі падчас канцэрта на сцэну выходзіць жанчына с такой жа высокай прычоскай і кажа: «Людміла Георгіеўна, а мяне Зыкінай называюць».

Я заўсёды думала сама, як выглядаць на сцэне. І заўсёды гэта рабіла. У свой час сама сабе касцюмы шыла, вышывала. Толькі нядаўна навучылася апранацца ў дарагое адзенне і з густам, гледзячы на жанчын, у якіх гэта добра атрымліваецца. А вышываць і зараз вельмі люблю. Вышываю гладдзю, умею крыжыкам. У мяне вельмі добрая калекцыя вышытых карцін, нават вышытая копія Рэнуара ёсць.

**— Колькі такіх шэдэўраў у Вашай калекцыі?**

— Колькі, зараз цяжка сказаць, таму што многія я падаравала. Напэўна, 25—30 будзе.

**— Вядома пра Ваша захапленне рыбалкай. Якая самая вялікая здабыча была ў Вас?**

— Пра самую вялікую зараз не скажу. Але вельмі запомнілася мая першая рыбалка. Гэта было на Волзе, у ціхім куточку. Закідвала вуду, закідвала, доўга і безвынікова. Потым раптам нешта трапіла. Мне здалося, што выцягваю, напэўна, тону. А аказалася — невялікі карасік. Але гэта было так цікава, што я ад задавальнення ляментавала на ўсю Волгу.

Яшчэ запомнілася адно «паляванне» падчас маёй паездкі ў Аўстралію. У Новай Зеландыі мяне запрасілі лавіць вугроў. Спачатку мы доўга ехалі. Потым доўга лавілі, але так нічога і не злавілі, збіраліся ўжо ад'язджаць. І тут на маю вуду нешта трапіла. Я паглядзела ўніз — змяя сядзіць. Заверашчала, і бягом адтуль. А аказалася — быў велізарны вугор.

**— Вам давялося бываць у Амерыцы яшчэ ў «тыя» часы. Няўжо не адчувалі розніцу паміж жыццём там і тут? Няўжо не хацелася потым сказаць праўду пра «перавагі сацыялістычнага ладу жыцця»?**

— Калі я першы раз трапіла ў Амерыку, яна мне вельмі не спадабалася. Было гэта ў 64-м годзе. Сапраўды, не кранула яна мяне. Мне падалося, што ўсе гарады (ну хіба што за выключэннем мегаполісаў Нью-Йорка, Чыкага) падобныя адзін на аднаго. Калі мы вярнуліся, я сапраўды шчыра падзялілася сваімі дрэннымі ўражаннямі ад Амерыкі. Тады прайшла чутка: Зыкіну навучылі, як сказаць, каб ні ў кога не ўзнікла жадання з'язджаць адсюль.

Але там жа, у Амерыцы, мне пашчасціла пазнаёміцца з «Бітлз». Мы пасябравалі, яны падаравалі мне сувенір на памяць.

**— Прайшоў час. І зараз усё болей гучаць словы пра тое, як дрэнна ў Расіі. У Вас няма настальгіі па тых часах, калі ўсё было толькі добра?**

— Вядома, многага, што здарылася апошнім часам, я зразумець не магу. Многага мая душа не прымае. Я не магу ніяк прымірыцца, што ўсе аддзяліліся. Ну як можна жыць адно без аднаго? Раней прыязджала ў любую рэспубліку і ведала, што я дома. Але настальгіяй па страчаных часах не хварэю. Асабліва пасля таго, як давялося пабываць у Паўночнай Карэі. Вось дзе няшчасны народ, які жыве толькі ідэямі. Як самага вялікага асабістага свята яны чакаюць красавіцкіх фестываляў, якія ладзяцца ў гонар дня нараджэння Кім Ір Сена. Людзі пазбаўлены асабістай волі. Калі хаця б ужо з сённяшняга нашага стану трапіць у Карэю, то болей нам вяртацца нікуды не захочацца. Я лічу, што да мінулага вяртання не будзе.

**— Вы сябравалі з былым міністрам культуры СССР Екацярынай Фурцавай. Пра яе некампетэнтнасць у свой час хадзілі анекдоты.**

— Яна была маёй вельмі добрай сяброўкай. І жыццёвым настаўнікам. Не можа некампетэнтны чалавек узначальваць культуру на працягу 16 гадоў. Мяне заўсёды здзіўляла, як можна так добра арыентавацца адначасова ў музыцы, жывапісе, ведаць пра стан пісьменнікаў, архітэктараў. Я лічу, што яна была вельмі кампетэнтная і шмат зрабіла для культуры.

**— Быў выпадак падчас аднаго з канцэртаў, калі Вас не прапусціў ахоўнік, не пазнаўшы Вас. А Вы паставілі яго на месца словамі «Я Зыкіна»...**

— Быў такі выпадак. Мы ішлі з канцэрта, са мной выходзілі яшчэ музыканты. Было вельмі холадна, хацелася хутчэй дабрацца да цяпла. І я сапраўды сказала: «Выбачайце, калі ласка, але я Зыкіна». Я лічу, што калі са мной гэта і здарылася, то не ад ганарлівасці, а проста ад таго, што я змерзла.

**— Што ці хто з сучаснай творчасці, на Ваш погляд, варты ўвагі?**

— Я вельмі люблю поп-музыку, люблю джаз, люблю ўсю эстрадную музыку, якая проста таленавіта зроблена сама па сабе. Я люблю, цікаўлюся ўсім тым, што зараз завецца эстрадай.

А да адкрытай пошласці, якая ідзе са сцэны, ніяк не магу прывыкнуць. Я і сама ведаю мноства «блатных», хуліганскіх песень. Мы выхоўваліся на вуліцы. Я сама з народа, на заводзе працавала, «моцныя» словы ўжыць магу, калі трэба. Толькі адна справа — вуліца, іншая — сцэна. Я лічу, калі непрафесіянальна выходзяць на сцэну — гэта нічым не замаскіруеш.

**— А ў Вашай прафесіянальнай кар'еры былі дасягненні, калі хацелася ганарыцца сабой?**

— Ні адна спявачка рускіх народных песень не выступала з сімфанічным аркестрам і сімфанічным хорам. А мне давялося спяваць араторыю Шчадрына. Вы ўяўляеце, што гэта за музыка? Шчадрын — наватар, у яго творах усё сплялося — і класіка і сучаснасць. Вельмі складана выконваць такую музыку, мне здавалася, што я ніколі не адолею так і твор. Але я спявала.

**— Вы народная спявачка СССР, уладальніца зоркі Героя Сацыялістычнай Працы. Пасля ўсіх Вашых рэгалій — толькі на Новадзявочыя... Але артыст не памірае, пакуль гучаць яго песні. Ці ёсць нешта, што рухае Вас далей?**

— А мяне не трэба рухаць. Я рухаюся сама.

**Запісала Ларыса ЦІМОШЫК.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**У 1543 годзе** ў Гродне заснавана «Літоўская капэла» — адзін з найбольш ранніх аркестравых калектываў на тэрыторыі Беларусі. Звестак наконт саставу інструментаў і характару рэпертуару не выяўлены. Вядома толькі, што ў 1601 годзе ў саставу капэлы ўваходзілі 15 музыкантаў і спевакоў.

**13 жніўня 1829 года** нарадзіўся стваральнік рускай фізіялагічнай школы Іван Сечанаў. У працы «Рэфлексы галаўнога мозгу» абгрунтаваў рэфлекторную прыроду свядомай і несвядомай дзейнасці, паказаў, што ў аснове псіхічных з'яў ляжаць фізіялагічныя працэсы.

**13 жніўня 1871 года** нарадзіўся Карл Лібкнехт, адзін з заснавальнікаў германскай камуністычнай партыі і «Саюза Спартака». Забіты контррэвалюцыянерамі ў 1919 годзе.

**У 1891 годзе** ў Кракаве выйшаў паэтычны зборнік «Дудка беларуская» Мацея Бурачка (Францішка Багушэвіча). Італьянец Дж. Месіна з гэтай нагоды сказаў: «Калі ў новай беларускай літаратуры і можа быць метрычны запіс яе нараджэння, — дык гэта час апублікавання ў Кракаве твораў Мацея Бурачка».

**13 жніўня 1913 года** нарадзіўся вядомы беларускі кампазітар Анатоль Багатыроў, аўтар опер «У пушчах Палесся» (адна з першых у нацыянальным оперным рэпертуары), «Надзея Дурава», стваральнік музыкі да многіх кінафільмаў і тэатральных пастановак, у тым ліку да драмы Лермантава «Маскарад».

**13 жніўня 1926 года** нарадзіўся Фідэль Кастра, старшыня Дзяржаўнага Савета і СМ Кубы. У 1956 годзе на яхце «Гранма» высадзіўся са сфарміраваным у Мексіцы рэвалюцыйным атрадам і ўзначаліў партызанскую барацьбу, якая прывяла да перамогі ў 1959 годзе кубінскай рэвалюцыі.

### Цікава

***Наўрад ці каму прыемна чуць раніцай гук будзільніка. Але як інакш можна прачнуцца чалавеку ў патрэбны час?***

Англійскія вучоныя выявілі, што ўласцівасць прабуджаць мае не толькі гук, але і пах. І ўжо стварылі новы будзільнік. Ён нічым не адрозніваецца ад сваіх «сваякоў», калі не лічыць маленькай адтуліны, у якой знаходзіцца капсула з пахучым рэчывам. У патрэбны час прыводзіцца ў дзеянне тэрмаэлемент, які награвае змесціва капсулы, і пакой напаўняецца, напрыклад, водарам ягад. Праз нюх пах узбуджае той участак мозгу, які кіруе прабуджэннем. Акрамя ягаднага, абуджальным дзеяннем валодае водар апельсінаў і кавы.

### Неверагодна!

***18-гадовы кангалезец Чомбе — унікальны чалавек. І не таму, што ў яго два сэрцы (адно злева, другое — справа) — гэтая з'ява, хоць і рэдка, але сустракаецца. І не таму, што мае рост 2 м 18 см. Унікальнасць яго зусім у іншым — справа ў тым, што ў Чомбе жывуць як бы два чалавекі адразу.***

Адзін Чомбе днём вучыцца ў сельскагаспадарчым каледжы, працуе падпаскам у свайго бацькі, дапамагае па гаспадарцы сваёй маці. За паўгадзіны да заходу сонца кладзецца спаць, а пасля заходу прачынаецца... зусім іншым чалавекам! Ён ведае сваё імя, але зусім не памятае, каб калісьці вучыўся ў каледжы. Ён ведае сваіх бацькоў, братоў і сясцёр, але нічога па гаспадарцы рабіць не хоча і захапляецца толькі начным паляваннем і рыбалкай (Чомбе-дзённы да гэтага, дарэчы, вельмі раўнадушны). Чомбе-начны выдатна танцуе і спявае, хоць днём гэтага яго не прымусіш зрабіць.

«Гэта два зусім розныя чалавекі», — кажуць пра яго суседзі і сябры. За гадзіну да світання Чомбе-начны засынае, а пасля ўсходу сонца прачынаецца бадзёры, энергічны і гатовы да працы і вучобы. «Вось так і рос, — расказвае яго маці, — спіць усяго гадзіну раніцай і гадзіну ўвечары. Але самае страшнае яшчэ наперадзе. Я не ведаю, хто з іх першы закахаецца і жэніцца. І як яны будуць дзяліць жонку?!»

### Анекдот

*— Калі я іду ў госці з жонкай, то п'ю вельмі мала, — кажа адзін свайму сябру.*

*— Табе не дазваляе жонка? — пытаецца той.*

*— Не, проста аднойчы я здорава перабраў і мне падалося, што ў мяне дзве жонкі. Такога жаху я ніколі не адчуваў!*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; агладальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852.
Індэкс 63850.
Зак. №4449.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.